# Лідзкі Летапісец

*Народ які ня ведае свайго мінулага, ня мае будучыні*



Краязнаўчы, гісторыка-літаратурны часопіс

№ 4 СТУДЗЕНЬ - ЛЮТЫ 1998

## У НУМАРЫ:






### *На сьмерць Людвіка Нарбута*

Над Лідай пад вечар закрумкаў крумкач,
І сонца ў крывавым зьмярканьні зайшло,
Усхліпнуў Лідзейкі галосіна-плач,
Жыцьцё чалавека ў прадоньне сышло.

Прылёг для спачыну прытомлены лёс
На гонях, барах беларускай зямлі,
Пад чорныя шаты бязмоўных нябёс
Ліцьвінскія хлопцы навечна пайшлі.

Тут сёньня для сьмерці багаты ўмалот,
Між Дубіцкіх пушчаў, карчовішч, лясоў,
Між Дубіцкіх рэчак, азёр і балот
Тут Нарбут свой вечны прытулак знайшоў...

*

Ня ўсё ён давершыў на гэтай зямлі,
Ды болей, напэўна, ня здолеў, ня змог.
Ці болей чужынцы яму не далі,
Ці больш не казаў, не судзіў яму Бог.

Ён сьмела паўстаў на імперыю зла,
І што ж тут такога? Зваліць не здалеў,
Ды гэтая спроба пустой не была.
А быў гэта нашай свабоды пасеў.

*

Свабода ўзышла, як трава, як мурог,
І колькі яе не таптаў чужы бот,
Стаптаць, здратаваць не адолеў, ня змог,
Ня змог і ня зможа ні ў дзень і ні ў год.

Хай крумкае зноўку над Лідай крумкач,
Тут Нарбута памяць у людзях жыве,
І могуць нас нішчыць, касіць і таптаць,
Ёсьць вечнасьць у нас, як у гэтай траве.

**Станіслаў Суднік**
**3.03.1998 г.**

# Шаноўнае спадарства

*Тэма гэтага звароту ўзьнікла ў сувязі з выхадам папярэдніх нумароў і паўстала надзвычай востра. Зьвязана яна будзе з падачай датаў. Справа ў тым, што на працягу тых семісот гадоў,у акрэсе якіх мы ў асноўным разглядаем гісторыю Ліды і Лідчыны на тэрыторыі Беларусі дзейнічала некалькі календароў. Летапісы і кронікі пазначаліся датай то ад стварэння сьвету, то ад нараджэньня Хрыстова. У 1592 годзе адбылося ўвядзеньне грыгарыянскага календара,які на Беларусі то ўводзіўся (1596 г.) то адмяняўся (1793 г), то ізноў уводзіўся (1918 г). Расейская праваслаўная царква да гэтага часу скарыстоўвае юліянскі каляндар. Каталіцкі касьцёл за часы Расейскай імперыі карыстаўся грыгарыянскім календаром. За гэты час некалькі разоў мянялася дата Новага года. Першым днём Новага года пасьпелі пабыць і 1-е сакавіка і 1-е верасьня. Само сабой зразумела, што даты ў летапісах і кроніках падаваліся адпаведна таму календару,які дзейнічаў у гэты час на гэтай тэрыторыі. Таму Грунвальдская бітва ў нямецкіх кроніках і расейскіх летапісах адбывалася ў розныя дні. Іншыя падзеі разьбягаюцца на розныя месяцы і гады. Ну з такой падзеяй,як Грунвальдская бітва можна сяк-так разабрацца. Пра яе напісана шмат. А вось пра лакальную падзею так адразу не скажаш.Большасьць кронікаў і летапісаў зараз даступна ў перакладах і пераказах. І часта даводзіцца толькі здагадвацца, як аднёсься перакладчык да датаў: выраўняў іх па новым стылі ці пакінуў на старым. Гэта ўносіць і блытаніну з датамі ва ўсю гістарычную літаратуру, у тым ліку, і ў «Лідзкі летапісец». Мы, безумоўна, будзем імкнуцца даваць усе даты пачынаючы з 17 стагоддзя па новым стылі, або ўказваць абодва стылі. Але перавод на новы стыль падзейякія адбыліся да ўвядзеньня грыгарыянскага календара нямэтазгодны. Там усе даты будуць па старым стылі. Гады будзем старацца лічыць ад 1-га студзеня на працягу ўсяго часу.*

*Мы будзем патрабаваць ад нашых аўтараў канкрэтнага падыходу да датаў. Калі ж будуць прыводзіцца без каментараў вытрымкі з кронікаў ці летапісаў, то ўжо шаноўны чытач сам мусіць будзе здагадвацца, які каляндар тады дзейнічаў і калі тая падзея адбылася дакладна.*

*Такім чынам, хацелі мы тога ці не, мы сутыкнуліся з усеагульнай гістарыяграфічнай праблемай і мусім разьвязваць яе агульнапрынятымі метадамі.*



Мы зьвяртаемся да ўсіх,
хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі
Ліды і краю, дасылаць іх на адрас:
Ліда-2, а/с 7, або перадаваць у рэдкалегію.

**Лідзкі Летапісец**

**ЧАСОВАЯ РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

*Станіслаў Суднік*
*Валеры Сьліўкін*
*Алесь Казак*

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**

*Лідзкая рэгіянальная рада Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі і Згуртаваньне Лідзкай моладзі імя Гедыміна*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

*г. Ліда-2, а/с 7*

Наклад 299 асобнікаў
Замова.
Друкарня.

Аўтары нясуць поўную адказнасьць за гістарычную дакладнасьць сваіх матэрыялаў.

# Сьнежань 1997 года

# КРОНІКА ЛІДЫ

***<u>9 СЬНЕЖНЯ</u> на чэмпіянаце сьвету па армрэстлінгу, што праходзіў у Індыі, лідзянін Уладзімір Нікольскі стаў чэмпіёнам у вазе 100 кг***



Уладзімір Нікольскі

*<u>20 СЬНЕЖНЯ</u> ў Лідзкім індустрыяльным тэхнікуме прайшла прэзентацыя відэафільма "Шляхам Адама Міцкевіча". Рэжысёр Ганна Мальцава, аператар Васіль Шостак. У ролях студэнты групы 2-кт Лідзкай філіі Гарадзенскага тэхнічнага каледжа.*




Альманах, прысвечаны Адаму Міцкевічу, падрыхтаваны групай 2-кт

<u>24 СЬНЕЖНЯ</u> выйшаў першы нумар лідзкай штотыднёвай грамадзка-інфармацыйнай газеты "Тэлескоп". Заснавальнік — Лідзкая друкарня.


З Новым ТЭЛЕСКОП годам!

Першы нумар газеты "Тэлескоп"

# Студзень 1998 года

<u>7 СТУДЗЕНЯ</u> *ў Туапсэ выйшла другая кніга вершаў лідзкага паэта Леаніда Вінніка "Мелодии печального дождя".*

Леонид Винник

МЕЛОДИИ ПЕЧАЛЬНОГО ДОЖДЯ

<u>17 СТУДЗЕНЯ</u> здадзены ў эксплуатацыю новы будынак пажарнага дэпо г. Ліда.

<u>27 СТУДЗЕНЯ</u> з Лідзкай друкарні выйшла кніга лідзкага паэта Пятра Макарэвіча "Злітак".

ПЁТР МАКАРЭВІЧ

• ЗЛІТАК

МІНІСТЭРСТВА ЮСТЫЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПАСВЕДЧАННЕ
АБ РЭГІСТРАЦЫІ ГРАМАДСКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 0057

Назва: Беларускае добраахвотнае таварыства ахова помнікаў гісторыі і культуры (БДТАПГК)
Статус: рэспубліканскае
Асноўныя мэты дзейнасці: захаванне, выяўленне, вывучэнне і ўлік помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, распаўсюджванне сярод насельніцтва ведаў аб помніках і фарміраванне на гэтай аснове нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа і павагі да культурнай спадчыны іншых народаў.
Кіруючы орган: Рэспубліканскі Савет
Адрас: 220029, г.Мінск, вул.Старажоўская, 5

Дата рэгістрацыі: 30 снежня 1991 г.
Дата перарэгістрацыі: 23 лютага 1995 г.
Міністр юстыцыі

Абласны Савет Гродзенскага ... | Областной Совет Гродненского ...
29 января 1998 г.
№ 9
г. Гродно

СПРАВКА.

Президиум Гродненского облсовета общества охраны памятников истории и культуры свидетельствует, что Лидская городская организация общества охраны памятников истории и культуры находится на учёте в областном совете. Председателем Лидской городской организации является СЛИВКИН Валерий Васильевич.

Зам. председателя президиума Гродненского облсовета Д. ОЛЕШКЕВИЧ.

<u>29 СТУДЗЕНЯ</u> Прэзідыюм Гарадзенскай абласной арганізацыі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі зарэгістраваў Лідзкую гарадзкую арганізацыю Таварыства.

# Кроніка айкумены

Лідзкі гістарычны каляндар

## люты

**1 лютага 1863 г.** Стварэньне часовага правінцыйнага ўрада Літвы і Беларусі. Зварот Літоўскага правінцыйнага Камітэта да насельніцтва з Маніфестам аб паўстаньні.

**1 лютага 1913 г.** нарадзіўся Сяргей Прытыцкі, дзеяч рэвалюцыйнвгв руху Заходняй Беларусі, партыйны і дзяржаўны дзеяч БССР.



Сяргей Прытыцкі

**2 лютага 1348 г.** Перамога войскаў Вялікага Княства Літоўскага над крыжакамі на рацэ Стрэва.

**2 лютага 1838 г. (21.01.1938 г. ст. ст.)** нарадзіўся Кастусь Каліноўскі-кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстаньня 1863-1864 гг.

**2 лютага 1918 г.** Беларускае прадстаўніцтва ў Бярэсьці выдала дэкларацыю пратэст супраць гандлю паміж Расеяй і Германіяй за кошт Беларусі.

**2 лютага 1968 г.** Адчыніўся Гудзевіцкі літаратурна-краязнаўчы музей Мастоўскага раёна.




Буклет
Гудзевіцкага музея

**4 лютага 1808 г.** Нарадзіўся Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.



Вінцэнт
Дунін-Марцінкевіч

**7-10 лютага 1918 года.** На канферэнцыі беларусіх нацыянальных арганізацый у Вільні сфармавана Віленская беларуская цэнтральная Рада.

**9 лютага 1913 г.** Першая пастаноўка камедыі Янкі Купалы “Паўлінка”

**10 лютага 1868 года.** У г. Табольску нарадзіўся беларускі пісьменнік, мастак і скульптар Карусь Каганец (Казімір Карлавіч Кастравіцкі). Сын удзельніка паўстаньня 1863-64 гг. сасланага ў Сібір. Адзін з аргнізатараў Беларускай сацыялістычнай грамады.

**12 лютага 1918 г.** На Беларусі ўведзены каляндар новага стылю.



Карусь Каганец


Максім Гарэцкі

**13 лютага 1918 г.** Дэкрэт СНК РСФСР пра ўтварэньне Беларускага нацыянальнага камісарыята (Белнацкама)

**18 лютага 1893 г — 10 лютага 1938 г.** Жыцьцё і дзейнасьць беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Расстраляны НКВД.

**18 лютага 1918 г.** Войскі кайзераўскай Германіі пачалі наступ і акупацыю цэнтральнай і ўсходняй Беларусі. Беларуская рада ў Вільні апублікавала дэкларацыю з заклікам да ўтварэньня незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы.


Станіслаў Пятровіч Шушкевіч

**19 лютага 1918 г.** Нарадзіўся Станіслаў Шушкевіч, беларускі паэт, двойчы рэпрасаваны: у 1936 і 1949 гадах. Вярнуўся на Беларусь у 1956 годзе.

**19 лютага 1918 г.** У Менску пакінутым бальшавікамі ўлада перайходзіць да Выканаўчага камітэта Рады Усебеларускага зьезду.


Народны сакратарыят Беларусі

**19-21 лютага 1918 г.** Выканаўчы Камітэт Рады Усебеларускага зьезда прыняў 1-ю Устаўную грамату, стварыў Урад — Народны сакратарыят Беларусі.

**24 лютага 1878 г.** Нарадзіўся Казімір Малевіч, беларускі мастак, адзін з заснавальнікаў абстрактнага мастацтва.


Вялікі князь Уладзіслаў IV

**27 лютага 1936 г.** Усеагульны штрайк рабочых Ліды. Прынялі ўдзел каля чатырох тысяч чалавек.

**28 лютага 1633 г.** Вялікі князь і кароль Уладзіслаў IV выдаў лідзкім яўрэям прывілей, якім дазволіў адрамантаваць старую сінагогу і пабудаваць другую новую сінагогу з той умовай, каб яна не перавышала касьцёла і царквы.

**29 лютага 1468 г.** Выдадзены Судзебнік Казіміра Ягелончыка — беларускі кодэкс крымінальнага і працэсуальнага права.


Вялікі князь Казімір Ягелончык

## Акрамя таго ў лютым:

**1932 г.** Васьмідзённы штрайк 350 рабочых лідзкай фабрыкі «Ардаль».

**1943 г.** Падпольшчыкі Алесь Клімко і Лёня Халявінскі ўзарвалі бензасклад.

# сакавік


Падпісаньне ў Берасьці мірнай дамовы паміж Расеяй і Германіяй

**2 сакавіка 1928 г.** Адмена выбараў у Лідзкай акрузе. Ануляваньне спісаў левых партый. Масавыя арышты: арыштавана 36 чалавек.

**3 сакавіка 1918 г.** Падпісаньне ў Бярэсьці мірнай дамовы паміж Савецкай Раеяй і дзяржавамі германскага блоку, паводле ўмоў якога Беларусь была падзелена па лініі Дзьвінск—Сьвянцяны—Ліда—Пружаны—Бярэсьце.

**3 сакавіка 1923 г.** Выйшаў першы нумар заходнебеларускай газеты “Новае жыцьцё”

**4 сакавіка 1503 года.** Замірэньне паміж Вялікім княствам Літоўскім і Вялікім княствам Маскоўскім, паводле якога да Масквы адышло 27 гарадоў і 70 воласьцей, у тым ліку Бранск, Дарагабуж, Гомель, Тарапец, Чарнігаў, Старадуб і інш.


Міхась Чарняўскі

**7 сакавіка 1938 г.** Нарадзіўся М. Чарняўскі, беларускі археолаг. Вёў раскопкі на Лідчыне.

**8 сакавіка 1908 г.** Нарадзіўся Яўхім Гапееў — камандзір партызанскага злучэньня Лідзкай зоны і падпольнага гаркома-райкама КПБ (1943-1944).

**9 сакавіка 1883 — 3 сакавіка 1944 г.** Жыцьцё і дзейнасьць Францішка Аляхновіча — беларускага драматурга, пісьменніка і тэатральнага дзеяча.


Францішак Аляхновіч

**9 сакавіка 1918 г.** Выканаўчы камітэт Рады ўсебеларускага зьезда прыняў 2-ю Устаўную грамату, у якой абвясьціў стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі.

**10 сакавіка 1943 г.,** у сераду на Папелец у 17 гадзін фашысты расстралялі 9 каталіцкіх сьветароў (7 пробашчаў і 2 вікарыяў) у лясным масіве на захад ад Ліды. Перазахованы на Астраўлянскіх могілках.

**11 сакавіка 1903 г.** Нарадзіўся Тодар Кляшторны, беларускі паэт. Рэпрасаваны ў 1937 годзе.

**11 сакавіка 1911 г.** У Лідзе нарадзіўся Аркадзь Мігдал — фізік-тэарэтык, акадэмік Акадэміі Навук СССР.


Аркадзь Мігдал

**13 сакавіка 1823г.** Нарадзіўся Ігнацы Бжастоўскі, магілёўскі паўстанцкі ваявода 1863 года. Сасланы ў Сібір.

**13 сакавіка 1863 г.** Указ імператара Аляксандра II пра ўвядзеньне абавязковага выкупу сялянскіх надзелаў у Віленскай, Гарадзенскай, Ковенскай і Менскай губернях.

**14 сакавіка 1768 г.** Нарадзіўся Адам Храптовіч, удзельнік паўстаньня 1794 года, візітар школ Віленскай акругі.

**14 сакавіка 1943 г.** Роберт Сасноўскі і Сямён Паўлаў ўзарвалі электрастанцыю, якая забяспечвала электраэнергіяй Лідзкі чыгуначны вузел.

**14 сакавіка 1973 г.** Памёр генерал арміі Герой Савецкага Саюза Кузьма Галіцкі, удзельнік абарончых баёў пад Лідай у 1941 г., ганаровы грамадзянін г. Ліды.


Ф. Багушэвіч

**17 сакавіка 1898 г.** Нарадзіўся І. Харык, яўрэйскі паэт, член-карэспандэнт АН БССР, рэпрасаваны ў 1937 годзе.

**18 сакавіка 1918 г.** Нарадзіўся Паўлюк Прануза, беларускі паэт.

**21 сакавіка 1840 г.** Нарадзіўся вялікі Францішак Багушэвіч, паэт, адзін з заснавальнікаў новай беларускай літаратуры.

**25 сакавіка 1918 г.** 80 гадоў назад Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў 3-й Устаўной грамаце абвясьціла пра аддзяленьне Беларусі ад Расеі і ўтварэньне вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі. Нацыянальнае сьвята ўсіх беларусаў сьвету.



Шыльда вайскова-дыпламатычнай місіі БНР

**25 сакавіка 1923 г.** нарадзілася Маша Кастраміна — сябар падпольнай групы, што дзейнічала на чыгуначнай станцыі Ліда. У 1941 г. скончыла сярэднюю школу № 1 ў Лідзе. Піянерважатая СШ № 10. З травеня 1943 г. у партызанскім атрадзе ім. Варашылава. Загінула ў баі каля в. Жамыслаў Івейскага раёна.


Мемарыяльная дашка ў памяць М. Кастраміной на 1-й школе г. Ліда

**27 сакавіка 1968 г.** Загінуў першы касманаўт Зямлі Юры Гагарын, ураджэнец беларускай Смаленшчыны.

**28 сакавіка 1958 г.** Прынята Пастанова СМ БССР аб заснаванні Пастаяннага прадстаўніцтва БССР пры ААН.

## Акрамя таго ў сакавіку:

**1422 г.** Да вялікага паста ў Лідзкім замку адбываліся вялікія баляваньні з нагоды шлюбу Польскага караля Уладзіслава Ягайлы і княжны Сафіі Гальшанскай.


Ягайла і Соф'я Гальшанскія

**1861 г.** Выступленьні сялян Лідзкага павета ў сувязі з правядзеньнем зямельнай рэформы 1861 г.

**1940 г.** У Лідзкім раёне арганізаваны першыя калектыўныя гаспадаркі: у Ганчарах — калгас імя Леніна, у Сяльцы — калгас «Чырвоны Сялец».

## Акрамя таго ў:

**1253 годзе** — першыя летапісныя звесткі пра Турыйск (Турэйск), горад Гарадзенскага княства, пазней вёска Лідзкага павету, зараз — Шчучынскага раёна.


Вялікі князь Віцень

**1293 годзе** — пачаў княжыць у Вялікім княстве Літоўскім Віцень.

**1323 годзе** — заснаваны Лідзкі замак.

**1323 годзе** — Давыд Гарадзенскі двойчы разьбіў крыжакоў пад Псковам.

**1433 годзе** — Вялікі князь Сьвідрыгайла аблажыў Лідзкі замак пад час яго вайны з Жыгімонтам.

**1473 годзе** — першы ўспамін пра Радунь.

**1583 годзе** — Мікалай Радзівіл Сіротка пачаў рэканструкцыю Нясьвіжскага замка, у выніку якой замак набыў выгляд блізкі да сучаснага.


Лідзкі замак. Праект рэканструкцыі

ТЭАДОР НАРБУТ

# ТРОХІ ЗЬ ГІСТОРЫІ ГОРАДА ЛІДЫ

***(Старажытная гісторыя літоўскага народа. Т. 5. дадатак 1, Вільня. 1839).***

Гэтая мясцовасьць пасьля заваёвы каля 1180 г Дайноўскага княства, у якім яна разьмяшчалася, ёсьць абшар ліцьвінскі, бо Ліда абазначае паляна, поле ачышчанае ад лесу.

Замак быў заснаваны ў 1323 годзе Вялікім князем Гедзімінам; будавалі яго кіеўскія майстры і скарыстаны былі палонныя з Валыні.

Хрысьціянская рэлігія рускага веравызнаньня была ўведзена ў гэтым краі зь вельмі даўніх часоў; капліца ў замку існавала ад пачатку яго будаўніцтва. Латынскае веравызнаньне ўвялі францысканцы з мэтаю навяртаньня ліцьвінаў, што былі яшчэ ў паганстве. Калісьці русіны зусім не ўмешваліся ў пытаньні мясцовага вераваньня, таму паміж імі былі ўзаемныя мір і цярпімасьць.

У 1366 годзе прыбыла францысканская місія, рэпрэзантаваная трыма манахамі, у 1369 годзе пры нейкай суматосе іх пазабівалі паганцы. Неўзабаве, аднак, прыбыло шасьцёра новых. Над магілай сваіх братоў на падзамчы яны збудавалі араторыюм і пры ім жылі. Лідзкім старастам тады быў Даўгерд, хрысьціянін. Каля 1376 года прыбылі яшчэ францісканцы, іх лік вырас да дзевяці. Прынесьлі з сабой абраз Маці Божай з горада Візны, гэты абраз да гэтага часу славіцца цудамі ў прыходзкім касьцёле.

У 1381 годзе Ягайла у той час князь віцебскі, крэўскі і на Лідзе, перадаў Лідзкаму касьцёлу маёнтак, які зараз называецца Плябанцы і даход зь нейкай іншай воласьці.

1397. У Лідзе быў пабудаваны новы касьцёл, пасьвенчаны віленскім біскупам Андрэем, які пры ім зноў пасяліў францысканцаў. Колішнія місіянеры гэтага ордэна, як сьцвярждае плябанская натацыя, як быццам былі разагнаны ці перабіты пад час нападу крыжакоў у 1394 годзе.

5 жніўня 1406 года смаленскі князь Юры Сьвятаславіч зь вялікай бандай гайдамакаў напаў на Ліду, разрабаваў і спаліў яе, штурмаваў замак, але марна. Жонка гэтага князя зь дзецьмі знайходзілася ў Лідзкім замку ў няволі. Лідзкі староста Якуб зь Селіцы адсутнічаў, аднак хутка пасьпеў з Голдава і, разграміўшы гайдамакаў, адагнаў. Яны зьніклі ў Салешніцкіх лясах, а потым напалі на францысканцкі кляштар у Вільні і кляштр Дзевы Марыі на Песках, у якім, шукаючы каштоўнасьцяў, пабілі манахаў, усіх каго засьпелі ў кляштары (так слова ў слова было напісана ў лідзкіх плябанскіх натацыях, напісаных ксяндзом Стагневам, які праз 40 з нямногім гадоў быў лідзкім пробашчам, і прадоўжаных далей яго заступнікамі).



Тэадор Нарбут

1414 г. У Лідзе аднаўлены касьцёл і пасьвенчаны пад назвай Найсьвяцейшай Дзевы Марыі і Усіх Сьвятых, спачатку ў першым пасьвянчэнні быў Сьвятога Крыжа. У паперах прыхода знайшоўся невялікі ўрывак прывілея караля Уладзіслава. Зь яго ўдалося прачытаць толькі наступны тэкст:

"У імя Божае. Аман. Уладзіслаў, Божай міласьцю кароль Польскі, Вялікі князь Літоўскі і іншае, Уладар Рускі і іншае. На вечную памяць. З дапамогаю сродкаў, як намі выдзеленых з княжай скарбніцы, так і іншых, для шчасьлівага і спакойнага устанаўленьня, для захаваньня літургіі Ўсемагутнаму, каб для ўсіх князёў пакінуць слаўную справу для вышэйшай сілы Божай. Хочам, каб будаўніцтва, так удачна пачатае, зараз з дапамогаю заснавальнікаў было скончана. Ранейшы касьцёл, нашага заснаваньня, некалі прысьвечаны Сьвятому Францішку — Апосталу літоўскаму, прызначаны гораду Лідзе, зараз быў нанава аднаўлены ў гонар Усіх Сьвятых і, галоўным чынам, у гонар Сьвятога Крыжа. Перадаём маёнткі для патрэбы гэтай установы, пра якую пішам у гэтым прывілеі... пацьвярджаем і далучаем дары для Ліды... Даўгерду..." На адвароце пісьмом пазьнейшага часу запісана дата: MCCCCXIIII (1414). Відавочна гэта дата прывілея.

У 1434 г, калі Сьвідрыгайла спаліў Ліду, касьцёл, аднак, ацалеў.

1450 г. У Крупе пабудаваны філіяльны касьцёл.

1533 г. У горадзе была пасьвенчана руская царква.

1661 г. У Лідзе памерла пры родах княжна Ганна Шуйская быўшая замужам за Янам Міхаілам Нарбутам, апошняя ў родзе князёў Шуйскіх на Шуі, расейскіх эмігрантаў, прыбыўшых у Літву каля 1500 г. Ад яе сына Францішка пайшоў род лідзкіх Нарбутаў.



Rod Welikich Kniazey Litowskich, z Pokolenia a z rodu....

Старонка "Хронікі Быхаўца" — адной з асноўных крыніц Тэадора Нарбута

### СЬПІС ЛІДЗКІХ ПРОБАШЧАЎ

1460. Прыход прыняў ксёндз Стагнеў.

З 1554 г. ксёндз Ян з Данатава. Віленскі прабадар атрымаў Лідзкі прыход, касьцёл быў пераведзены пад кіраваньне адміністратарамі, даходы ішлі Віленскай капітуле, з-за чаго гаспадарка заняпала.

З 1559 г ксёндз Ян Андрэевіч, біскуп лідзкі і берасьцейскі.

З 1580 г. ксёндз Ян Юшынскі, з яго пачынаюць называцца пробашчамі Лідзкімі і Крупскімі.

1622 ксёндз Ян Хрызастом Рагнятоўскі.

1650 ксёндз Адам Ліпніцкі, дэкан лідзкі.

1657 ксёндз Марцін Длужнеўскі.

1662 ксёндз Ігнацы Рэберт.

1688 ксёндз Станіслаў Відмунд Відымоўскі.

1700 ксёндз Ян Даўгерд.

1738 ксёндз Пётр Стракоўскі.

1747 ксёндз Міхаіл Зянковіч, віленскі біскуп, заснавальнік каменнага касьцёла, які перанесены на іншае месца з падзамча, дзе зараз пляц перад Домам Скарбовай касы.

1760 ксёндз Станіслаў Богуш Сестранцэвіч, канонік жмудзкі.

1766 ксёндз Антоні Эйсмант.

1783 ксёндз Казімір Нарбут, піяр, настаяцель парадыйскі, кавалер Ордэна Сьвятога Станіслава.

1801 ксёндз Вінцэнт Нарбут, канонік інфлянцкі, дэкан лідзкі.

1826 ксёндз Рачынскі

1831 ксёндз Вінцэнт Лінкен, дэкан лідзкі.

### СЬПІС ЛІДЗКІХ СТАРАСТАЎ
**(з рукапісу Верпінскага каморніка)**

Якуб зь Селіцы, каля 1404 г.

Аш-Гірэй (Хаджы-Гірэй) стаў крымскім ханам, запрошаны татарамі ў 1443 г.



Стараста Лідзкі Юры Радзівіл

Станіслаў Петрашковіч, да 1499 г.

Глеб зь Янава Сапега, коратка.

Крыштаф Ільініч, 1503.

Дрозд, пасьля адхіленьня Ільініча каралём 1505 г.

Якуб Абрамовіч, коратка.

Юры Мікалаевіч Радзівіл, 1528-1538 г.г.

Мікалай Янавіч Радзівіл, коратка.

Юры Ільініч, коратка.

Пётр Вярыга Багушэвіч Масальскі 1559

Ян Абрамовіч на Варнянах, ваяводы смаленскі, прэзідэнт дэрпцкі, старста лідзкі і венданскі, земскі прэзідэнт Інфлянт, 1596 г.

Юры Радзівіл, коратка.

Аляксандр Галаўчынскі, коратка.

Казімір Стэфан Сапега, 1619

Князь Міхаіл Радзівіл, коратка.



Стараста Лідзкі Міхаіл Радзівіл

Князь Крыштаф Радзівіл, 1675.

Міхаіл Францкевіч, 1680.

Казімір Францкевіч, 1688.

Ян Сцыпіён, 1703.

Язэп Сцыпіён, 1720

Ігнацы Сцыпіён.

Язэп другі Сцыпіён 1785.

## Да гістарычных зьвестак Тэадора Нарбута пра Ліду

*Публікацыя Тэадора Нарбута першая надрукаваная гісторыя Ліды. З моманту яе зьяўленьня на сьвет прайшло больш 150 гадоў, за гэты час некаторыя даты ўдакладнены, выяўлены невядомыя*

*Т. Нарбуту дакументы, што дазваляе паправіць адпаведныя недакладнасьці.*

*У 1381 г. Ягайла ня мог перадаць Лідзкаму касьцёлу маёнтак Плябанцы, таму што касьцёла ў Лідзе тады яшчэ не было. Хрысьціянізацыя Літвы праведзена ў 1387 годзе. Магчыма перадача маёнтка адбылася ў 1387 годзе, але тады Ягайла быў ужо польскім каралём..*

*Княжна Марыя Шуйская памерла ў 1661 годзе, а не ў 1631. Яе муж Іван Міхаіл Нарбут нарадзіўся каля 1630 г, а іх агульны сын Францішак — родапачынальнік Лідзкіх Нарбутаў — каля 1660 г.*

*Сьпіс Лідзкіх старастаў паводле зьвестак, што маюцца ў нашыи распараджэньні выглядае наступным чынам.*

**Намесьнікі, дзяржаўцы і старасты Лідзкія.**

*1369 —1373? — Даўгерд, хрысціянін*

*1373? — 1381 — Вайдыла — слуга Вялікага князя Альгерда, стараста Лідзкі, муж княжны Марыі Альгердаўны, дарадца вялікага князя Ягайлы. Павешаны князем Кейстутам у Дуброўне.*

*1397—1399 — Тахтамыш — нашчадак Чынгісхана, хан Заўральскай, з 1381 г. Залатой Арды. У 1382 г. зьдзейсьніў «Тахтамышава нашэсьце» на Маскву. У 1395 г. пасьля паразы ад Тамерлана выгнаны з Арды, прыняты вялікім князем Вітаўтам. У канцы жыцьця Хан Улуса Шырынаў.*

*1406 — Якуб зь Селіцы.*

*1434—1443 (1445?) — Азі (Ач, Ачжы, Аш, Ах) Гірэй (Кірэй, Кгірэй, Кірыя) — унук Тахтамыша, заснавальнік крымскай дынастыі Гірэяў, якая кіравала Крымам на працягу 340 гадоў.*

*XV стагоддзе — Іван Кучукавіч — пасол да Гірэяў пры Мур-Даўлаце, г. зн. да 1466 года.*

*XV стагоддзе — Глеб Сапега родам зь Янава.*

*1483—1485 — Пётр (Петрашка) Пашковіч па мянушцы Кішка (1420? — 1485), кухмістар каралеўскі, намесьнік Лідзкі з 1483 г., маршалак гаспадарскі.*

*XV стагоддзе — Юры Пацовіч (Пац) (? —1505) наваградзскі намесьнік у 1492 — 1496 гг.*

*1496 г. — Станіслаў Пятрашкавіч Кішка (1455? — 1514), стольнік літоўскі з 1491 г., пасол Вялікага князя Аляксандра да Вялікага Маскоўскага князя Івана III у 1490 і 1495 гг., маршалак гаспадарскі ў 1493 — 1499 гг., намесьнік Лідзкі ў 1496 г., намесьнік смаленскі у 1500 — 1503 гг., гетман ВКЛ у 1504 — 1507 гг., стараста гарадзенскі з 1508 г., маршалак земскі ў 1512 — 1513 гг.*

*1501—1502 — Юры Іванавіч Ільыніч (гл. ніжай), у некаторых крыніцах Крыштаф Ільыніч.*

*1503 — травень 1507 — Андрэй Аляксандравіч Дрожджа (Дрозд), сваяк князя Міхаіла Глінскага. Атрымаў Ліду ад караля Аляксандра па просьбе Глінскага ў абход закону: намесьнічаства Ільыніча было пажыцьцёвае — «да жывата». З-за гэтага адбылося сур'ёзнае супрацьстаяньне паміж панамі — радай і каралём, якое прывяло да грамадзянскай вайны, перарошай у вайну паміж ВКЛ і Масквой і каштавала ВКЛ страты вялікіх тэрыторый.*

*26.12.1507 — 1537 — Юры Іванавіч Ільыніч (каля 1470—1527) — маршалак гаспадарскі (1501—1519), стараста лідзкі (1501—1519), намесьнік лідзкі з 1507 г., намесьнік лідзкі і беліцкі у 1510 г, стараста лідзкі з 1511 г, намесьнік берасьцейскі (1510—1524), ковенскі (1514, 1519—1523), маршалак дворны (1519—1526). Будаўнік Мірскага замка.*

*1.09.1528—1541 — Юры Мікалаевіч Радзівіл (каля 1480—1541) — падчашы літоўскі (1510—1516), ваявода кіеўскі (1511—1515), стараста гарадзенскі з 1514, гетман надворны з 1521 г, кашталян троцкі (1522 — 1527), кашталян віленскі з 1527 г, гетман ВКЛ з 1531 г, намесьнік вялонскі і майшагольскі з 1507 г, мазырскі і мярэцкі, вуценскі, дзяржаўца лідзкі, беліцкі і скідальскі.*

*1541—1584 — Князь Мікалай Юр'евіч Радзівіл «Руды» (1512— 27.04.1584) ваявода троцкі (1549—1566), ваявода віленскі з 1566 г, гетман ВКЛ (1553—1569, 1576—1584), канцлер ВКЛ (1566—1579), стараста барысаўскі, мазырскі, ашмянскі, слонімскі, дзяржаўца лідзкі. Кальвініст з 1564 г.*

*1584—1602 -- Ян Саніслававіч Абрамовіч (Абрагамовіч) (?—19.04.1602), войскі і намесьнік віленскі (1579) стараста вяндэнскі (1583 ці 1589), прэзідэнт дэрпцкі (талінскі), ваявода менскі (1593) і смаленскі (1596). Земскі прэзідэнт Інфлянт (Латвія) у 1596 г. У дзіцячыя і юнацкія гады выхоўваўся пры двары Мікалая Радзівіла «Рудога». Кальвініст.*

*1602—1607? — Юры Радзівіл (1578—1613), маршалак ВКЛ.*

*1607—1617 -- Князь Аляксандр Галачынскі (каля 1570—1617) кашталян жмудзкі (1606), ваявода мсьціслаўскі (1615). Вызначыўся у 1600 г. пад час вайны са шведамі.*

*1619 -- Казімір Стэфан Сапега (магчыма гэта Аляксандр Казімір Сапега (?—1619))*

*1640? -- Крыштаф Радзівіл (1585—1640), ваявода віленскі.*

*1660?--1668 -- Аляксандр Нарушэвіч — падкаморы ВКЛ.*

*1675 -- Міхаіл Казімір Радзівіл (26.10.1625—14.11.1680), ардынат нясьвіжскі, стольнік літоўскі з 1652 г, крайчы літоўскі з 1653 г, кашталян віленскі з 1661 г, ваявода віленскі з 1667 г, падканцлер літоўскі і гетман польны літоўскі з 1668 г, стараста камянецкі, гомельскі, лідзкі, крычаўскі, прапойскі.*

*1680 — Міхаіл Францкевіч Радзімінскі*

*1688 — Казімір Францкевіч Радзімінскі (1638 - 1694)*

*1703 — Ян Сцыпіён — кашталян смаленскі (умоўна — Смаленск у 1667 г адыйшоў да Расеі)*

*1720 — Язэп Сцыпіён дэ Кампа*

*1756 — Ігнат Сцыпіён дэ Кампа, падстолі ВКЛ, стараста лідзкі, у 1756 г запрасіў у Ліду ордэн піяраў.*

*1785—1795 — Язэп Сцыпіён дэ Кампа, генерал-маёр*

## Лідзкія маршалкі

*Капец, Халецкі, Францкевіч, Раецкі, Рымвід, Валовіч, Александровіч, Александровіч, Александровіч, Сцыпіён дэ Кампа, Масіевіч, Нарбут Казімір (1792—1794), Ёдка.*

*Пасьля 1802 года: Нарбут Антон-Іван (1802), Нарбут, Скіндар, Скіндар, Кастравіцкі, Марачэўскі, Бутковіч, Скрабак-Важынскі.*

**Валеры СЬЛІЎКІН,**
**кандыдат геаграфічных навук.**

# Лідчына ў паўстаньні 1863 года

Лідчына ў паўстаньні 1863 года

Лідзкі павет Віленскага краю, на паўдарозе паміж дзьвюмя сталіцамі Наваградкам і Вільняй, цэнтр летапіснай Літвы, унікальны славяна-балцкі кангламерат. На працягу 500 гадоў ён выконваў адну дзяржаўную задачу стратэгічнай важнасьці. Ён рэгулярна з года ў год, з вайны на вайну пастаўляў людзкія і матэрыяльныя рэсурсы ў войска Вялікага Княства. Сіняя вада, Ворскла, Грунвальд, Ворша, Смаленск, Масква, Пскоў — усюды былі лідзкія харугвы. Усюды дзе ішла бітва за незалежнасьць свайго Краю, сваёй Радзімы. Пад камандай Гедыміна Альгерда, Кейстута, Ягайлы, Вітаўта, Радзівілаў, Сапегаў, Глінскіх, Касьцюшкі, Ясінскага, Панятоўскага. Пад сьцягамі з Пагоняй яны біліся за свой Край. Прайходзіла 20-30 гадоў пасьля чарговай паразы, падрастала новае пакаленьне і Лідзкі павет ізноў быў гатовы пасылаць сваю моладзь на бітву. Панёсшы вялікія страты ў паўстаньні 1794 года, у вайне 1812 года, у паўстаньні 1831 года Лідзкі павет у 1863 годзе быў адной з самых падрыхтаваных да паўстаньня тэрыторый. Густа заселены, зь вялікім працэнтам баявой, ганаровай і гарачай шляхты, з балоцітай і лясной мясцовасьцю ён мусіў сказаць сваё важкае слова ў гэтым паўстаньні. Мусіў і сказаў.


Валеры Урублеўскі

Цэнтрам паўстаньня 1863 года на Беларусі была сталіца — Вільня. Лідзкі павет быў суседнім зь Віленскім. Лідзян вельмі шмат было ў Вільні. Яны былі знаёмыя паміж сабой. Далучэньне да паўстанцкага руху аднаго цягнула далучэньне другога. Вакол Каліноўскага мы бачым некалькі відных лідзян, прычым на самых высокіх пасадах.

Перш за ўсё гэта Валеры Ўрублеўскі (на-радзіўся 27 сьнежня 1836 г. у мястэчку Жалудок Лідзкага павету). Адзін з выдаўцоў "Мужыцкай праўды", начальнік паўстанцкіх сілаў на Гарадзеншчыне, камандзір атрада, палкоўнік ВКЛ.

Цітус Далеўскі (нарадзіўся 13 травеня 1840 г. у фальварку Кункулка Лідзкага павету). Дакладнае месцазнаходжаньне фальварка нам не вядома. Найбліжэйшы памочнік Кастуся Каліноўскага.

Францішак Далеўскі, (1825-25.04.1904 г., фальварак Руднікі Лідскага павета), брат Цітуса. Адзін з кіраўнікоў партыі белых.

Кастусь Далеўскі (1837-25.5.1871 г.), брат Цітуса. камандзір атрада на Ковеншчыне.

Апалонія Далеўская (1841-пасьля 1915), сястра Цітуса, жонка Зыгмунта Серакоўскага.

Эмануэль Юндзіл, сын вядомага батаніка Станіслава Юндзіла з в. Ясенцы Лідзкага павета.

Нейкім чынам можа быць зьвязана зь Лідчынай і нарачоная Кастуся Каліноўскага Марыя Ямант. Нарадзілася яна ў Вільні. Але бацька яе Тадэвуш Ямант узначальваў адміністрацыю маёнткаў князя Вітгенштэйна, якому належала і Дакудава. У Марыі былі тры сястры і чатыры браты. Марыя, яе бацька, маці, дзве сястры і брат Юзаф былі арыштаваны і сасланы ў Сібір. Лёс трох малодшых непаўналетніх братоў Марыі дакладна не вядомы. Ці яны дабраахвотна паехалі з бацькамі ў Сібір, ці засталіся ў нейкай радні. Але у 1886 годзе ў Дакудаве ў сям'і Казіміра Ямanta, якому ў час паўстання было 13 гадоў, нараджаецца вядомы мастак Браніслаў Ямант. Значыць Ямантьі мелі сувязі з Вітгенштэйнам і Лідчынай. А гэта дае падставы меркаваць, што калі да паўстаньня Яманты і не жылі ў Дакудаве, то, прынамсі, маглі бываць, у тым ліку і Марыя, нарачоная Кастуся Каліноўскага.


Марыя Ямант, нарачоная Кастуся Каліноўскага

2 лютага, праз 10 дзён пасьля пачатку паўстаньня ў Польшчы Літоўскі правінцыйны камітэт заклікаў падтрымаць паўстаньне.

13 лютага Людвік Нарбут атрымаў зь Вільні загад узначаліць паўстаньне ў Лідзкім павеце. І павет паўстаў.

Лідзкі павет паўстаў першым на тэрыторыі Беларусі. На Гарадзеншчыне, дзе ў гэты час быў сам Каліноўскі і само-сабой Урублеўскі паўстаньне пачалося толькі 24 красавіка.

У Лідзкім павеце на тую пару ўжо ва ўсю ішлі баі.

Выключная роля ў пад'ёме павета належала каталіцкаму касьцёлу. У большасці парафій ксяндзы з амбонаў зачыталі маніфест паўстаньня і заклікалі народ да барацьбы. Гісторыя захавала імёны некаторых зь іх. У аддзел Людвіка Нар-бута пасьля зачытаньня маніфесту паўстаньня ў Эйшышкаўскім касьцёле (тады Лідзкі павет) прыбыў малады ксёндз Юзаф Гарбачэўскі. 22 травеня 1863 года пасьля прызначэньня Віленскім генерал-губернатарам Мураўёў - вешальнік расстраляў першага паўстанца. Ім быў жалудоксні вікары ксёндз Станіслаў Ішора. 24 травеня 1863 года ў Вільні быў расстраляны ваверскі пробашч ксёндз Земацкі, 22 чэрвеня 1863 года ў Лідзе расстраляны іўчолнскі пробашч ксёндз Адам



**Устаноўка крыжа па ксяндзу Адаму Фалькоўскаму ў Лідзкім парку**

Фалькоўскі. Ксёндз Ануфры Сырвід, пробашч васілішскі сасланы ў Сібір. Гэта тыя, што сталі вядомымі, а колькі іх засталося па-за паперай і памяцьцю, але яны не менш мужна і чэсна зрабілі сваю справу. Яны паднялі народ і ішлі з гэтым народам да канца. Да паўстаньня ў Лідзкім павеце было 20 касьцёлаў. Пасьля паўстаньня засталося 13. Сем было зачынена.

Адразу пасьля атрыманьня загаду Людвік Нарбут сабраў першы атрад з васьмі чалавек. У яго ўвайшлі сам Людвік, яго брат Баляслаў, Уладзіслаў Пілецкі і пяць сялянаў. Дарэчы, трэба адзначыць, што, як бы хто гэта не хацеў замоўчаць, паўстаньне 1863 года ў Лідзкім павеце, як і ў цэлым па Беларусі было не шляхочым, а ўсенародным. Сасланую, расстраляную, павешаную, эміграваўшую шляхту па ўсёй Беларусі мы лічым на сотні. Агульную колькасьць сасланых у Сібір, на катаргу, у арыштанцкія роты на дзесяткі тысяч. Адкуль яны ўзяліся? Адказ просты: зь сялян і мяшчан.

9 сакавіка Нарбут даў першы бой. Да гэтага да аддзелу далучыўся Лявон Краінскі з групай сялян і ўжо згаданы ксёндз Юзаф Гарбачэўскі, які стаў капеланам аддзела. Пры пераходзе ў Рудніцкую пушчу пад Руднікамі пры выхадзе зь лесу аддзел Нарбута колькасьцю каля 80 чалавек шляхты, студэнтаў і сялян сустрэў сотню казакоў і дзьве роты стралкоў. Пасьля першых стрэлаў казакі ўцяклі, а пяхота адступіла. Аддзед у паходным парадку пераправіўся цераз рэчку Сольчу. Пасьля гэтай сутычкі да аддзела далучылася група моладзі зь Вільні на чале з мастаком Міхалам Эльвірам Андрыёлі (1836-1893).

У сакавіку аддзел вярнуўся ў Начскую пушчу і стаў лагерам поблізу в. Паддубічы. 11 красавіка адбыўся другі бой. Ноччу конныя паўстанцы разабралі пад Берштамі мост цераз р. Котру. Сюды пасьпеў аддзел пад камандаваньнем гвардзейскага капітана Цімафеева сілаю ў дзьве роты Паўлаўскага палка і 36 казакоў Данскога палка.

Па атрыманых ім зьвестках аддзел Нарбута знайходзіўся каля фальварка Глямбокі памешчыка Мікульскага, дзе Нарбут разам з ксяндзом Ю. Гарбачэўскім прыводзіў да прысягі прыбыўшых у аддзел сялян. Выведка папярэдзіла Л. Нарбута пра набліжэньне непрыяцеля, і ён вырашыў даць бой. Як толькі ланцуг стралкоў выйшаў на узьлесьсе, па яму быў адкрыты ружэйны агонь. Дзякуючы лічэбнай перавазе і наўянасьці штуцараў царскія роты наступалі "рухаючыся месцамі па пояс у вадзе па густым бало-цістым лесе". Паўстанцы адступілі ведучы моцны ружэйны агонь. У расейцаў забіта два, паранена пяць, у паўстанцаў забіты адзін, паранена пяць.

Акрамя нарбутаўскага ў Лідзкім павеце дзейнічала яшчэ некалькі аддзелаў. Адным зь іх камандаваў Баляслаў Навіцкі.

Вялікая бітва паўстанцаў з царскімі войскамі адбылася на полі паміж вёскамі Малое Ольжава і Мохавічы. Паўстанцы панесьлі тут вялікія страты і адступілі праз балоты ў бок Нёмана. Нажаль, ні прозьвішча камандзіра аддзела, ні імёны палеглых у гэтай бітве невядомыя. Але ўжо сёньня мы можам гаварыць пра аднаго з магчымых удзельнікаў гэтай бітвы. Гэта Кастусь Кашыч (Кашыц, Kaszyc, 1828 — 1881 г.г.), сын Юзафа Кашыча, маршалка наваградзкага. Кастусь Кашыч — выпускнік Дэрпцкага (Талінскага) ўніверсітэта,беларускі



**Крыжы на магіле паўстанцаў паміж М.Ольжавам і Мохавічамі**

пісьменьнік, уладальнік Тарнова, Белагруды, Малога Ольжава. За ўдзел у паўстаньні быў сасланы і да 1866 года быў у высылцы. Тэрмін высылкі не вялікі, таму казаць што Кашыч кіраваў гэтым аддзелам няма вялікіх падстаў. Камандзір аддзела мог быць проста расстраляны, а калі сасланы, то надоўга. Магчыма, што Кашыч ваяваў зусім у іншым месцы. Але тут ёсьць невялікае "але". Перш наконт тэрміну высылкі. Царскія сьледчыя маглі і ня ведаць паслужнога сьпісу Кашыча. Другое. Пасьля бітвы, якая адбывалася на землях самога Кашыча пад Малым Ольжавам і Белагрудай, усе паўстанцы былі пахаваны проста на полі бою. Было пастаўлена

некалькі помнікаў. Пры Саветах гэтыя помнікі пасьцягалі трактарамі ў балота, але адзін ацалеў і зараз абноўлены. Пасьля паўстання маёнткі Кашыча перайшлі да расейскага палкоўніка, пазьней генерал-лейтэнанта Зьміцера Маўроса. Маўрос на сваіх землях помнікі паўстанцам ня ставіў бы. Відочна, помнікі пасьпелі паставіць яшчэ ў час паўстання. Пастаноўка гэтых помнікаў — вялікая рызыка. Хто мог на яе пайсьці? Хутчэй за ўсё той, каго нешта вельмі моцна лучыла з палеглымі. Лучыць магло перш за ўсё сумеснае змаганьне. У гэтым выпадку матывы пастаноўкі гэтых помнікаў зразумелыя.

У красавіку аддзелы Нарбута і Навіцкага перамясьціліся ў Гарадзенскую пушчу. 8 красавіка палкоўнік Вернер, у падпарадкаваньні якога былі тры роты пяхоты, эскадрон уланаў, 20 казакоў і гармата — усяго 805 штыхоў і шабель атрымаў паведамленьне, што лідзкі аддзел у колькасьці ня менш 300 чалавек разьмясціўся лагерам у ваколіцах возера Думбля ў Лапшуцянскім лесе. Тут адбыўся трэці бой аддзела, вядомы, як бой пад Кавалькамі. Бой цягнуўся 4 гадзіны. Страты ў царскіх жаўнераў — 10 параненых, у паўстанцаў — 7 забітых, у тым ліку Войтак Нарбут і Уладзіслаў Навіцкі і каля дзесяці параненых. Людвіку Нарбуту тым не менш удалося вывесьці аддзел з акружэньня і захаваць сілы. Яму была нададзена годнасьць палкоўніка і загадам 18 красавіка ён быў прызначаны начальнікам усімі баявымі сіламі паўстанцаў па Беларусі і Летуве.

24 красавіка нарэшце выступіў Гарадзенскі павет. І Нарбут павярнуў на Лідчыну. 4 травеня лёс зноў зьвёў Нарбута з капітанам Цімафе-евым, на гэты раз на рэчцы Котра пад Дубічамі. Цімафееву дапамог мясцовы селянін Базылевіч, які за грошы вывез перапранутага ў сялянскую вопратку Цімафеева пад самы лагер аддзела. Першая рота Паўлаўскага палка засьпела паўстанцаў зьнянацку , але біліся яны па-майстэрску: адступалі перакатамі ў дзьве лініі — адна лінія адстрэльвалася, другая перабягала і залягала. Людвік Нарбут стаў адной зь першых ахвяр: пахіснуўся, упаў на калені, калі да яго кінуліся на дапамогу, гукнуў: "Гэта нічога, нічога..." Яго падхапілі на рукі і панесьлі, але выратаваць ужо не маглі, ранены ён быў смяртэльна. Людвік пасьпеў перадаць паперы і грошы аднаму са сваіх памочнікаў,


Сьмерць Людвіка Нарбута. Мастак Міхась Андрыёлі

але і той упаў побач забіты кулямі. У гэтым баі загінулі Л. Красінскі, Т. Скірмунт, Я. Ёдка, Гемза, Ігнат Тарасевіч, лідзкі фельчар, Лукашэвіч і яшчэ 5 ці 6 чалавек. 25 паўстанцаў трапіла ў палон.

Цімафееў дазволіў пахаваць каля Дубіцкага касьцёла ўсіх загінуўшых. Мураўёў-вешальнік загадаў Дубіцкі касьцёл разбурыць, а могілкі зраўняць зь зямлёю. 6 жніўня 1933 года тут быў пастаўлены помнік.

Рэшткі лідзкага аддзела ўзначалілі Баляслаў Нарбут і Парадоўскі - Астрога. Яны вывелі аддзел у Гарадзенскую пушчу, а затым у Аўгустоўскія лясы.

А ў гэты час лідзяне біліся з ворагам на ўсіх абшарах Вялікага Княства . Францішак Нарбут быў капітанам паўстанцаў на Валыні.

Фелікс Калышка з фальварка Карманішкі Лідзкага павета ўзначальваў аддзел на Віленшчыне і Аўгустоўшчыне.

Баляслаў Калышка з таго ж фальварка Карманішкі, камандзір паўстанцкага аддзела на Ковеншчыне.

У гісторыі захаваліся імёны далёка ня ўсіх герояў, але мы мусім пералічыць тых, каго ведаем.

## Ураджэнцы і жыхары Лідзкага павета забітыя ў баях:

1. Нарбут Людвік, (26.08.1832-22.04./5.05/1863), 31 год, начальнік паўстання на Лідчыне, забіты пад Дубічамі
2. Нарбут Войтак-Юліян (1847-1863), 16 гадоў, сын Карнелія-Андрэя, забіты пад Кавалькамі
3. Беразоўскі Аляксандр, забіты пад Дубічамі
4. Беразоўскі Францішак, забіты пад Дубічамі
5. Гемза, забіты пад Дубічамі
6. Ёдка Я., забіты пад Дубічамі
7. Жукоўскі Уладзіслаў, забіты пад Дубічамі
8. Краінскі Лявон з Хрышанішак, забіты пад Дубічамі
9. Лукашэвіч, забіты пад Дубічамі
10. Навіцкі Уладзіслаў, забіты пад Кавалькамі
11. Паплаўскі Уладзімір з фальварка Крэвін Сабакінскай гміны, забіты пад Дубічамі
12. Ракемпіновіч, забіты пад Дубічамі
13. Скірмунт Т., забіты пад Дубічамі
14. Тарасевіч Ігнат, забіты пад Дубічамі
15. Хубаровіч Стэфан, забіты пад Дубічамі і дзесяткі — сотні невядомых.

## Расстраляны і павешаны:

1. Ксёндз Земацкі Раймунд, ваверскі пробашч, расстраляны 24 травеня 1863 года ў Вільні па выраку вайсковага суда за чытаньне ў касьцёле маніфеста паўстаньня
2. Ксёндз Ішора Станіслаў, жалудокскі вікары, расстраляны 22.05.1863 года ў Вільні па выраку ваеннага суда
3. Ксёндз Фалькоўскі Адам, ішчолнскі пробашч, расстраляны ў Лідзе на выгане (зараз гарадзкі парк на вуглу вуліц Перамогі і 8-га сакавіка) 24 чэрвеня 1863 года за чытаньне ў ішчолнскім касцёле маніфеста паўстаньня
4. Далеўскі Цітус (1/13/05.1840-30.12/11.01/.1864 года) публічна расстраляны на Лукішскім пляцы ў Вільні
5. Калышка Баляслаў (26.07/7.08/1837-28.05/9.06/ 1863 года, камандзір Ковенскага аддзела, павешаны на Лукішскім пляцы ў Вільні
6. Ласковіч Альберт, малады памешчык з Кір'янаўцаў, расстраляны 5 чэрвеня 1863 года за тое,

што ў Наваельненскім касьцёле спытаў ксендза, чаму той не чытае маніфеста паўстаньня

7. Лясьноўскі Юльян, памешчык зь Ліды, павешаны ў Вільні за прачытаньне маніфеста сялянам

Усяго на Беларусі і Летуве пакарана сьмерцю было 8 ксяндзоў. Трое зь іх зь лідзкага павету. Было выслана 36 ксяндзоў. У Віленскай і Гарадзенскай губернях было зачынена 140 касьцёлаў. 7 касьцёлаў было зачынена ў Лідзкім павеце.

## Сасланы ў Сібір на катаргу:

1. Вільбік Стэфан з Ліпкунцаў, вярбоўшчык паўстанцаў. Яго дыялог з сукамернікам:"Што са мной будзе?" "Могуць павесіць". "А ці траплю я ў гісторыю?" "Абавязкова". "Слава Богу, хай вешаюць".
2. Далеўскі Францішак, 10 гадоў катаргі ў Сібіры да паўстаньня і 20 гадоў катаргі пасьля паўстаньня
3. Клімантовіч Уладзіслаў, капітан
4. Мінскі Войтак
5. Пясецкі, рэктар
6. Струміла, рэктар
7. Таленская Альжбэта
8. Таленская Антаніна



**Францішак Далеўскі**

### Сасланы ў Сібір на пасяленьне

1. Альхімовіч Казімір(1840-1916), вядомы мастак
2. Андрэйкавіч
3. Вільканец Фёдар, губернскі сакратар, чыноўнік Гарадзенскай казённай палаты, высланы ў Шадрынск Пермскай губерні
4. Гажыч Вітольд, грамадзянскі начальнік Лідскага павету з травеня 1863 года, праваслаўны, памёр ад тыфу па дарозе ў Сібір
5. Далеўская (Серакоўская) Апалонія, выслана ў Ноўгарад, аўтар успамінаў пра паўстаньне
6. Жукоўскі Ян
7. Кашыч Кастусь
8. Нарбут Баляслаў(24.12.1843-8.09.1889), 20 гадоў, ад'ютант і брат Людвіка Нарбута, сасланы ў Краснаярск, памёр у Шаўрах ад туберкулёзу
9. Нарбут Крысціна(1803-1899, у дзявоцтве Падзеўская), маці Людвіка і інш. Нарбутаў( 6 сыноў і 4 дачок), выслана ў Пермскую губерню, пахована ў Шаўрах
10. Нарбут Мірон-Браніслаў, сакратар Наваградзкай канцылярыі, напісаў успаміны, сасланы ў Арэнбургскую губерню
11. Петрыкоўскі Анзелем
12. Ксёндз Сырвід Ануфры, пробашч васілішскі,за чытаньне маніфеста быў асуджаны на сьмерць, але, дзякуючы заступніцтву губернатаршы Патапавай з дому князёў Абаленскіх, памілаваны і сасланы ў Тамбоўскую губерню, дзе праз некалькі гадоў памёр
13. Тышкевіч Кароль з Жырмун, доктар, сасланы ў Пермскую губерню на пасяленьне
14. Шукевіч Томаш, лідзкі павятовы суддзя, сябар паўстанцкага камітэта, збіраў падаткі для паўстанцаў, сасланы ў Ніжагародзкую губерню

Усяго зь Беларусі ў Сібір было вывезена 1329 чалавек, у войска было аддадзена яшчэ 12 тысяч чалавек.

## Аказаліся па эміграцыі:

1. Александровіч Ксаверы з Нявешы
2. Бердаўскі Эдвард з Няпрахі
3. Грымайла Фелікс
4. Далеўскі Кастусь, расстраляны версальцамі пад час разгрому Парыжскай камуны
5. Захватовіч Вінцэнт — уладальнік Бердаўкі
6. Зьяровіч Адольф
7. Зьяровіч Аляксандр
8. Клімантовіч Генрык
9. Клюковіч
10. Юндзіл Эмануэль
11. Масальскі
12. Масальская, у дзявоцтве Захватовіч
13. Манчунская Тэадора, у дзявоцтве Нарбут
14. Марачэўскі Адам

15-16 двое Марчэўскіх

17. Нарбут Браніслаў(1854 - ?)
18. Нарбут Францішак-Салезі(9.11.1845-7.10.1892), капітан паўстанцкіх сілаў на Валыні, эміграваў у Венгрыю
19. Паплаўскі Юльян, уладальнік Капцюхоў, Кажаняк і Ваўчынак, быў арыштаваны за дапамогу паўстанцам - дастаўка зброі, вопраткі, жыўнасьці - пасаджаны ў вязьніцу пры касьцёле Св. Пятра ў Вільні. Вызвалены за хабар. Дзед па мацеры Грымайла-Прыбыткі, аднаго з аўтараў "З.л."
20. Пульяноўскі Напалеон
21. Расніцкі Станіслаў
22. Рыхлевіч Ян
23. Сямашка Ян
24. Сумарок Юзаф
25. Таленскі Кіпрыян
25. Таленскі Яраслаў
26. Урублеўскі Валеры(1836-1907), начальнік Сакольскай лясной школы, у канцы паўстаньня - начальнік узброеных сілаў Гарадзенскай губерні, генерал Парыжскай камуны, асабісты сябар Маркса і Энгельса
27. Хензел Кастусь з Валдацішак, студэнт матэматыкі і медыцыны ў Пецярбургу, грамадзянскі начальнік Лідзкага павета, уцёк у Парыж у травені 1863 года
28. Хеншал Уладзіслаў
29. Хеншал Людвік
30. Шалевіч Казімір

31-34 чатыры браты Янкоўскія, Пётр, Аляксандр, Кастусь і Стэфан, сыны Пятра Янкоўскага з маёнтка Рачкоўшчына.

У большасьці ўдзельнікаў паўстаньня, якія мелі маёнткі, гэтыя маёнткі былі канфіскаваны. Сярод іх Мілінкевіч Казімір і многія іншыя, што не трапілі ў папярэднія сьпісы.Усе лідзкія чыноўнікі адлічвалі ад свайго "жалаваньня" на 2 працэнты на паўстаньне. Таму і зь іх шмат хто мусіў расплачвацца і маёмасьцю і эміграцыяй...

Прыблізна так выглядаў Лідзкі павет пад час гэтага паўстаньня.

Вечная слава палеглым і ацалелым на векі вякоў.

**Валеры СЬЛІЎКІН,**
**Станіслаў СУДНІК.**

# Найстаражытнейшыя пасяленьні Лідчыны

В. СЬЛІЎКІН,
кандыдат геаграфічных навук

**(Працяг. Пачатак у № 3 1997 г.)**

## ВАВЕРКА

Зусім верагодна, што летапісны горад Вевярэск, што згадваецца ў "Сьпісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх" у Першым наўгародзкім летапісе, папярэднік Ваверкі. Месцазнаходжаньне Вевярэска невядомае, лічыцца, што ён павінен быў знайходзіцца на беразе рэчкі Ваверкі. Археолаг В. Сядоў Вевярэск атаясамлівае са старажытным гарадзішчам ля в. Касьцянёва Шчучынскага раёна на беразе рэчкі Касьцянёўкі. Выказана меркаваньне, што горад і яго жыхары загінулі ў 1257-1259 г.г. пры наезьдзе Бурундая. Ацалелыя гараджане заснавалі новае паселішча і назвалі яго Ваверка.



Ваверскі касьцёл

Думаю, што Ваверка разьмешчана на месцы Вевярэска, бо не выпадкова ў пачатку стагоддзя тут было знойдзена бронзавая ўпрыгожваньне з рэштkамі эмалі, якое М. Шымелевіч у 1904 годзе перадаў у музей пры Віленскай публічнай бібліятэцы.

Пісьмова Ваверка вядома з 1413 г., калі Міхаіл Галігінавіч заснаваў касьцёл Сьвятога Францішка. Праз 50 гадоў удава Сафія Галігінавіч і сын Жынімонт Галігінавіч пацьвердзілі правы касьцёла Сьвятой Троіцы, з чаго можна здагадвацца, ці то ў Ваверцы быў пабудаваны другі касьцёл, ці пераіменаваны ранейшы. У 1496 г. Старая Ваверка або Вялікая (поблізу зьявілася Новая Ваверка пазьней Дылева) перайшла ў спадчыну да Мікалая Жыгімонтавіча Галігінавіча.



Беларуская карчма

Паміж 1501 і 1506 гг. Ваверка нейкім чынам аказалася ў Мікалая Юндзіловіча (Юндзіла) — земскага харужага. Прыводжу ўрывак з каралеўскага прывілея ў тым выглядзе, як ён быў запісаны ў Кракаве 10 красавіка 1511 г: ***"Прывілей пану Мікалаю Юндзілу, харужаму земскаму, дазволена яму плату зь дзьвюх карчом дубіцкіх чатыры капы грошай і тры капы з маёнткаў сваіх запісаці на касьцёл Сьвятога Станіслава ў Вільні вечна. ... Біў нам чалом харужы земскі, намесьнік конеўскі і дубіцкі пан Мікалай Юндзіловіч і ўказваў перад намі прывілей Аляксандра, караля і вялікага князя яго міласьці, і ў тым прывілеі выпісана, што ж яго міласьць даў яму карчму вольную ў месьце нашым Васілішскім вечна, з каторае ж карчмы дазволіў яго міласьць яму і плату браці на год па пяць коп грошай па таму, як і ныне мяшчане васілішскія плату нам з карчом ад піва і мёду плацяць. Каторую ж карчму з той платай пан Мікалай Юндзіловіч для свайго душнага збавеньня хацеў запісаці на капліцу Сьвятога Мікалая ў маёнтку сваім Ваверцы, нежлі бачачы, што ж у тым баку тымі разамі частакрат попалахі ад паганства татар бываюць, тое капліцы ў тым маёнтку сваім не хоча фундаваць і карчмы тые ў Васілішках, каторую ж брат наш яму на вечнасць пажалаваў, цераз тое трымаці не хоча".***

Узамен М. Юндзіл атрымаў дзьве карчмы ў Дубічах з аплатаю па дзьве капы грошай у год. Капліца Сьвятога Мікалая у Ваверцы засталася незавершаным праектам. За два гады да гэтага, у кастрычніку 1509 г. Юндзіл атрымаў "навечна" ў Львове 28 службаў людзей і дзьве пустаўшчыны за верную службу каралю Жыгімонту, яго брату і бацьку, з чаго выцякае, што ён больш 20 гадоў знайходзіўся на каралеўскай службе, быў пажылым чалавекам і рыхтаваўся да сустрэчы з Богам.

У 1522 г. Ваверка належыць Янушу Станіслававічу Касьцевічу — ваяводзе віцебскаму ў 1514 г, затым падляшскаму, маршалку і дзяржаўцу гожскаму, пераломскаму і радуньскаму. У першай палове 16 стагоддзя пры касьцёле існавала нейкая навучальная ўстанова: у сьпісах студэнтаў Кракаўскага універсітэта за 1513-1550 г.г. лічацца хлопцы з Ваверкі. У 1559 годзе ў Ваверцы — 54 дымы, гэта каля 500 жыхароў. У 1568 годзе ваверскі касьцёл быў перададзены кальвіністам — літоўскія магнаты тады захапляліся навамоднымі

рэлігійнымі плынямі. У 1570 г. Ваверка атрымала статус мястэчка, а гэта кірмашы, корчмы, дадатковыя даходы. Мястэчка Ваверка (Wawerka) абазначана на карце Т. Макоўскага 1613 г. У 1617 г. Ваверка належала А. Галеўскаму. Думаю, што гэта быў лепшы час у гісторыі Ваверкі, ніколі пазьней тут не жыло так шмат людзей, ніколі пазьней Ваверка ня мела местачковага статусу.

Пад час расейска-ліцьвінска-польскай вайны 1654-1667 г.г. Ваверка была зьнішчана. У 1659 годзе яна аказалася на шляху расейскага войска Івана Хаванскага. Ад той вайны захавалася невялікая адмеціна: пры ўваходзе ў агароджу касьцёла з правага боку стаіць каменная кадушка - падстаўка пад місачку для абмываньня з добра захаваным надпісам “Лиосновіч Самуэл 1659 г”.

У 1792 годзе ўладальнікам Ваверкі быў Караль Ласковіч. За нейкі суседзкі эксцэс ён падаў у суд на Ігнацыя Кастравіцкага, генерал-ад’ютанта караля і кавалера ордэна Сьвятога Станіслава. Суд прысудзіў І. Кастравіцкаму нейкі тэрмін зьняволеньня. Але вязьніцы ў Лідзе не было. Тады Кастравіцкі наняў за свой кошт пакой у кляштары піяраў і там адсядзеў некалькі тыдняў. Гонар вышэй за ўсё...

У канцы XVIII стагоддзя Ваверка ў Кастравіцкіх. Сын Самуэля генерал артылерыі, удзельнік Напалеонаўскіх паходаў Ігнацы Кастравіцкі на радзіму не вярнуўся, рэшту жыцьця пасьля 1813 г. дажываў у Вене. Яго сын Самуэль Кастравіцкі (1788-1859) пакінуў прыкметны сьлед на Лідчыне. У Ваверцы на яго сродкі ў 1840 годзе быў пабудаваны адзін зь лепшых каменных касьцёлаў з гіпсавымі скульптурамі на столі, дзьве зь якіх захаваліся і дагэтуль. Ён жа ў Паперні пабудаваў цудоўную канюшню з порцікам і каланадай, дзе трымаўся табун чыстакроўных арабскіх коней, атрыманых у пасаг яго жонкай Ганнай Залескай. Самуэль Кастравіцкі эміграваў у Вену, дзе ад бацькі застаўся палац, і заняўся выхаваньнем і адукацыяй сваіх дачок Меланьні і Юліі ды сына Люцыяна.

Лёс Меланьні Кастравіцкай суперрамантычны: адукаваная, вывучаўшая гісторыю, літаратуру, музыку, жывапіс, валодаўшая класічнымі і еўрапейскімі мовамі, здольная мастачка была прынята пры аўстрыйскім двары, знаходзілася ў бліжнім атачэньні жонкі Напалеона Банапарта — Марыі Людвікі (1791-1847). У 18 гадоў зацяжарыла, па легендах ад Напалеона II (1811-1832). Сына выхоўвалі прэлаты Ватыкана. Імя яго засталося невядомым.

Лёс Люцыяна Кастравіцкага (1816-1867) драматычна надломлены самадзяжаўнай воляй. Калі ён вучыўся ў Парыжскай вайсковай акадэміі пад час візіту расейскага імператара Мікалая І яго прадставілі самадзержцу з найлепшымі пахвалами. Ці то Люцыян нагрубіў імператару, ці то быў прыняты за ўцекача, але па высачайшаму загаду пад аховай быў адпраўлены ў Расею пад нагляд без права выезду. Люцыян жыў у Паперні, жаніўся на Юзэфе Сіклюцкай. У іх нарадзілася трое сыноў і дачка. Меў велізарны масіў зямлі плошчаю ў 15750 гектараў: Паперня (3000 га), Ваверка (6000 га), Кавалі (3000 га), Касьцянёва (3750 га), пазьбягаў грамады і лічыўся дзіваком. Згодна з патрабаваньнем жыўшага зь Меланьняй ў Вене бацькі Люцыян спачатку прадаў Ваверку і Кавалі, затым каля 1860 г. прадаў Паперню за дзьвесці тысяч рублёў золатам памешчыку Сьлізяню, праўда з правам выкупу на працягу ста гадоў. Відочна нейкія сямейныя венскія фінансавыя цяжкасьці змусілі яго пайсьці на такі крок. Сваім дзецям Люцыян пакінуў толькі Касьцянёва.

Шкадаваць прададзенай зямлі доўга не давялося: адмена прыгоннага права, паўстаньне 1863 года прывялі да таго, што многія страцілі маёмасьць і свабоду, а некаторыя і жыцьцё. 24 травеня 1864 года ў Вільні па выраку вайсковага суда быў расстраляны настаяцель Ваверскага касьцёла ксёндз Раймунд Земацкі за чытаньне ў сьценах касьцёла маніфеста паўстаньня. Ня выратавалі яго і сьведчаньні прыхаджан, што чытаў ён маніфест па прымусу.

У 1881 г. у Ваверцы былі касьцёл і карчма, жылі 73 жахыры. У пачатку XX стагоддзя становішча прыкметна не зьмянілася: 71 жыхар на 107 дзесяцінах, вёска называлася Вавёркай, побач разьмяшчаліся хутар Жараўскай (19 жыхароў) і засьценак Крупавіча (6 чалавек на 24 дзесяцінах).

Ваверскі прыход заўсёды адносіўся да радуньскага дэканату і ва ўсе часы лічыўся багатай парафіяй. У 1934-1936 гадах касьцёл быў расшыраны, для чаго былі разабраны дзьве сьцяны, і перабудаваны пад кіраўніцтвам майстра Бепкі зь Вільні. У 30-х гадах пры касьцёле лічылася да 12 тысяч прыхаджан. Старыя могілкі — адна з галоўных знакамітасьцяў Ваверкі. Зьвяртае на сябе ўвагу ступенчатае ўладкаваньне заходняга схілу з дакладнымі ўступамі і наяўнасьць двух узгоркаў з паніжэньнем паміж імі. Калі б мне давялося шукаць старажытны Ваверäск, я пачаў бы з гэтага месца. На старых могілках захаваліся помнікі на магілах сярэдзіны-канца XIX стагоддзя: князя Казіміра Гедройца, Юстыны і Леакадзіі з Штанцыеймеяраў, Міхаліны з Скардлеўскіх, Янчыка, Палейчыка, Макарчыка, Ходыша. Тут жа пахаваны восем жаўнераў Арміі Краёвай загінуўшыя 16 чэрвеня 1944 года пад час штурму нямецкага штуцпункта ў Яўлашах. Побач зь імі раней знаходзілася магіла легендарнага “ціха-цёмнага” камандзіра 7 батальёна паручніка Яна Піўніка “Панурага”, зьдзейсьніўшага адну з самых бліскучых аперацый польскага супраціўленьня.

Назва паселішча — ад назвы рэчкі, а назва рэчкі ад слова вавёрка, якое гучыць падобна і на беларускай і на летувіскай мовах (Vavere, vaveraite, veveryte). Ці то вавёрак у ваколіцах было шмат, ці то рэчка, як вавёрачка, хуценька зьбягала да свайго вусьця.



## Мыто

Першыя пісьмовыя згадкі пра Мыто адносяцца да ліпеня 1415 года, калі 65-гадовы кароль



Ягайла

Уладзіслаў Ягайла пераязджаючы з Падольля ў Літву, прыбыў сюды з Кобрына і нейкі час адпачываў. У сапраўднасьці паселішча мае вельмі старажытны ўзрост. За 1,5 км ад вёскі на ўзгорку ва ўрочышчы Зубаўшчына археолагі знайшлі гарадзішча X-XIII стагоддзяў, а побач на полі выявілі селішча, займаўшае плошчу каля трох гектараў. Мыто разьмешчана на старажытным тракце з Полацка ў Гародню праз Ліпнішкі, Ліду, Ваверку, Васілішкі. Старажытны тракт добра захаваўся паміж Лідай і Мыто. Ён працягваецца паралельна Гарадзенскай шашы. Ад в. Астроўля да в. Цыбары зь левага боку, ад в. Цыбары да в. Мыто з правага сямтам праглядваюцца водаадводныя раўчукі. Выходзіць тракт да насыпу праз пойму р. Дзітва да некалі існаваўшага драўлянага моста цераз Дзітву, спаленага ў 1-ю сусьветную вайну. Тракт прайходзіў па густым лесе і праезджых сяды-тады рабавалі. Каб сьмялей ехалася на ўзьлесьсі перад уездам у лес з боку Мыто стаяла габрэйская карчма.

У 1658 г. ў Мыто адбыўся соймік шляхты Лідзкага павету. Папярэднія соймікі сто гадоў прайходзілі ў Лідзкім замку, але ў Лідзе ўжо цэлы год зьверствавала маравая язва, у разгары была трыццацігадовая расейска-ліцьвінска-польская вайна. За тры гады да гэтага — восеньню 1655 года казакі прайшліся па Панямоньню, зпустошылі Ліду і ваколіцы. Усе судовыя і адміністрацыйныя ўстановы перасталі функцыяваць. Зьявіліся рабункі, забойствы, наезды на маёнткі. Для прыняцьця рашучых мер шляхта павету сабралася 2 лютага 1658 года ў Мыто. Соймік устанавіў надзвычайны парадак вядзеньня спраў па злачынствах і вызначыў за іх самыя суровыя пакараньні. Паседжаньне прайходзіла пад кіраўніцтвам Мартына Дамініка Лямонта (Лімонта) — лідзкага земскага суддзі, славутага тым, што ў тым жа годзе заснаваў у Васілішках касьцёл і кляштар дамініканцаў.

Праз год цераз Мыто ў бок Гародні прайшло 30-тысячнае войска расейскага ваяводы Івана Хаванскага, зраўняўшае Ліду зь зямлёй. Трэба думаць, бяз бою на пераправе не абышлося. Мыто, канешне, пацярпела ад бою і рабункаў..

У 1671 годзе пры нявысьветленых абставінах быў забіты сьвятар Мытлянскай вуніяцкай царквы Багдан Варатынскі. Пра гэта згадваецца ў дакументах архіва вуяніцкіх мітрапалітаў.

У 40-х гадах XIX стагоддзя ў Мыто на месьце вуяніцкай царквы была ўтворана праваслаўная парафія, да якой у 1838 годзе былі прыпісаны 272 прыхаджаніна. Сучасная праваслаўная Пакроўская царква пабудавана ў пачатку XX стагоддзя, калі ў вёсцы жыло 135 жыхароў (72 мужчынскага полу, 53 жаночага), якія валодалі 206 дзесяцінамі зямлі. Функцыявала мытлянская народная вучэльня, валасная ўправа, лаўка, меўся стражнік. Побач разьмяшчаўся маёнтак Чапялеўскага, у якім жыло 40 работнікаў. Чапялеўскім належалі таксама маёнтак Дзітва Тавашоўская, Рулевічы і фальварак Аляксандраўшчына. Валодалі яны ў агуле 3800 дзесяцінамі зямлі.

У 1907 годзе пры выбарах у першую Думу ад мытлянскай валасьці былі абраныя ў якасьці выбаршчыкаў сяляне Ціхно і Канановіч. 4 лютага ў нядзелю ксяндзы пасьля прыезду сялян у Вільню пасялілі іх асобна ў доме Верашчакі ў Юнкерскім завулку. Высьветлілася, што іх спрабавалі ўгаварыць, каб правесьці ў думу 4 памешчыкаў і 2 мужыкоў і не прапусьціць ні аднаго габрэя, абяцалі за гэта грошы. Ціхно павёў сябе падазрона. У мытлянскай валасьці пайшла чутка, што пайшлі ў Думу адны паны, а калі і трапіў адзін мужык, то і тога не хваляць. Неўзабаве зьявіўся артыкул у газеце “Наша Ніва”, дзе пісалася, што “***паміж здраднікамі, якія аддалі нашу долю панам былі і нашыя выбаршчыкі Канановіч і Ціхно". “Зьменшчыкі юдашых! Горкай асіны вам мала! Што ж вы нас, як бульбу прадавалі". Такога гоману на іх паднялі, што страх.***

***Ксёндз наш ваверскі ўзяў нашых выбаршчыкаў пад апеку, ды з амбона абараняў іх.***

***Казаў, што дэпутаты-паны стаяць за нас у Думе шчыра і вельмі харошыя. Казаў не злаваць на тых, каго мы называем здраднікамі, а таксама і на васілішскага ксендза, які ўсю гэтую гісторыю зладзіў, бо ён па іх прысылаў паштовыя тройкі і ў першым класе, як паноў, павёз у Вільню. Тут,***


№ 4

Наша Нива

"Наша ніва"

***гаворыць нейкія чарнавусыя вінаваты, а хто не сказаў***

Назву сваю вёска атрымала ад слова мыт, мыта — дзяржаўны збор за ўвоз тавараў. Паселішчы з аналагічнымі назвмі ёсць і ў Расеі (Мыцішчы), і Чэхіі. Мыта бралася пры правозе тавараў праз памежныя заставы. Дзітва многія стагоддзі была памежнай рэчкай паміж ліцьвінамі і дайноўцамі, пазьней паміж Гара-дзенскай і Лідзкай землямі, паміж уладаньнямі Вітаўта і Ягайлы. Пры пераправе ўзьнікла мытная застава, а пры ёй паселішча, якое атрымала натуральную назву Мыта ці Мыто.

## Дылева

Дылева ў дакумантах 15-16 стагоддзя называлася Новай ці Малой Ваверкай. Так называў свой маёнтак Аляксей Дыла, заснаваўшы тут у сярэдзіне XVI стагоддзя парафіяльны драўляны касьцёл. 8 кастрычніка 1478 года ўдава Аляксея Дылы — Сафія Дыла склала тастамант, па якому падаравала парафіяльнаму касьцёлу ў Новай Ваверцы "ворнай зямлі на 40 бочак" і два лугі на адзін і два стагі сена".

Як быццам бы ў 16-18 ст.ст. у Дылеве існавала місся езуітаў, у канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзя пры касьцёле дзейнічала школа для дзяцей тутэйшых жыхароў. У сярэдзіне XIX стагоддзя, паводле аповяду Г. Марціновіча, касьцёл хацелі перарабіць у царкву, для чаго прыслалі з Баброў і Голдава майстроў пад аховай урадніка. Калі майстры палезьлі на страху, аднаго зь іх адтуль скінулі тутэйшыя сяляне. Вінаватыя былі арыштаваныя і сасланыя на катаргу. Касьцёл быў зьнесены пасьля паўстаньня 1863 года. Ад яго захаваліся каменныя фундаменты і дзьве надмагільныя пліты (1x2 м) з карэльскага чырвонаколеравага кварцбіятытавага граніту. Успамінаюць, што большую з магільных пліт везьлі 12 пар коней. На паліраванай паверхні выбіты імёны і прозьвішчы да Бога пайшоўшых:

***1 пліта***

*Тадэвуш Грабоўскі 1792-23.02.1858*
*Казіміра Грабоўская 20.02.1842-12.01.1860*

***2 пліта***

*Людвіка Ваўчанка жыла 70 гадоў, памерла 11.02.1831 г.*
*Разалія Шукевіч жыла 78 гадоў, памерла 28.01.1850 г.*
*Вікторыя Шукевіч жыла 21 год, памерла ў 1827 г.*
*Леанарда Шукевіч жыла 37 гадоў, памерла 7.12.1852 г.*

Усе, акрамя Вікторыі Шукевіч, памерлі ў цяжкія для ліцьвінскай шляхты гады, паміж пўстаньнямі 1831 і 1863 г. Уміралі ў лютыя зімовыя месяцы: сьнежні, студзені, лютым. Пліты зроблены у прамежку паміж 1853 і 1862 г.г. Надмагільную пліту Шукевічам замаўляў, відавочна, Томаш Шукевіч — суддзя лідзкага павета.

Побач з касьцёлам разьмяшчаліся могілкі, на якіх хавалі жыхароў навакольных вёсак, сьлядоў ад іх не засталося.

У пачатку XX стагоддзя меліся тры паселішчы з назваю Дылева: Старое Дылева — 111 жыхароў на 169 дзесяцінах, Новае Дылева — 26 жыхароў на 142 дзесяцінах і засьценак Дылева — 15 жыхароў на 34 дзесяцінах.

Назва вёскі паходзіць без усялякага сумніву ад позьвішча Дыла. Аляксей Дыла прэтэнзіцыйна назваў свой маёнтак Новай Ваверкай, спадзяючыся пераўзысьці Старую, гісторыі ж было да спадобы, каб Нова-Ваверка ператварылася ў Дылева. У вёсцы зараз жыве сямья з прозьвішчам Дула.

## Крупава

Пра вёску Крупава (да 1939 г. — в. Крупа) зьвесткі вельмі абмяжаваныя. Па зьвестках Т. Нарбута ў 1450 г. тут быў заснаваны касьцёл. Наяўнасьць касьцёла гаворыць пра тое, што паселішча было не з маленькіх. У Радуні, Балотне (суч. Воранава), Жалудку касьцёлаў яшчэ не было.

Паселішча Крупа (Krupa) абазначана на каце Т. Макоўскага 1613г. выданьня. З XVII стагоддзя Крупай валодалі Шукевічы, ёсць зьвесткі, што Крупай валодалі таксама Нарбуты. У некаторых гістарычных працах паведамляецца, што Казімір Даніэль Нарбут

нарадзіўся не ў Дакудаве, а ў Крупе.

Дакладна вядома, што ў пачатку ХХ стагоддзя былі дзьве Крупы, Першая і Другая, у іх жыло 235 чалавек, якія валодалі 251 дзесяцінай зямлі. Побач, у маёнтку Крупа, які належаў Шукевічам, жыў 21 чалавек. За маёнткам лічылася 400 дзесяцін зямлі. Шукевічы валодалі таксама фальваркам Пурсці (290 дзесяцін, 13 работнікаў) і засьценкам Чырвоным (5 работнікаў).

Дзякуючы Шукевічам в. Крупава вядомая сусьветнаму грамадзтву. Выпускнік Пецярбургскага кадзецкага корпуса і Адэскай артылерыйскай афіцэрскай школы падпаручнік Вацлаў Шукевіч быў арганізатарам і начальнікам Лідзкай самаабароны ў лістападзе-сьнежні 1918 года. Яго маці — Марыя Шукевіч (дзявочае прозьвішча Лукашэвіч) з 1918 па 1935 год была прэзідэнтам Лідзкага таварыства полек. Яго дзед Томаш Шукевіч, лідзкі суддзя, у 1863 годзе быў сябрам паўстанцкага камітэта, за што быў сасланы ў Табольск. Там вырас бацька Вацлава — Людвік Шукевіч.




**Фрагмент карты Т. Макоўскага**

Вацлаў Шукевіч, удзельнік баёў пад Варшавай у 1920 годзе, выпускнік Варшаўскай палітэхнікі, начальнік аддзела сінтэзу каўчуку хімічнага інстытута вынайшаў спосаб прамысловага атрыманьня штучнага каўчуку. У 1936 годзе пад яго кіраўніцтвам была пабудавана першая ў Польшчы і трэцяя ў сьвеце фабрыка па вытворчасьці штучнага каўчуку (KERa). Да верасьня 1939 года Шукевіч быў генеральным дырэктарам гэтай фабрыкі. У канцы 1941 года дабраўся да ЗША, працаваў у гуматэхнічнай прамысловасьці, удзельнічаў у выдавецтве польскіх газет. Узнагароджаны Крыжам за Адвагу і залатым Крыжам Заслугі. Памёр у 1992 годзе на 96 годзе жыцьця. Парэшткі яго пахаваны на Алеі заслужаных ў г. Дайлестоўн у штаце Пенсільванія.

Пляменьніца Вацлава Шукевіча, хрышчаная ў Крупаўскім касьцёле, Аліна Сурмацкая — Шчасьняк — доктар навук, мае 12 патэнтаў, працавала ў харчовым канцэрне ў ЗША.

Назву сваю вёска атрымала ад рачулкі Крупкі, што ўпадае ў Дзітву. Беларускія тапанімісты (Жучкевіч, Юрэвіч) лічаць, што р. Крупка ад назвы расьліны зь сямі крыжакветкавых — крупка. Крупкі пералескавая, стэпавая і сібірская растуць на беларускаіх сухіх лугах, на ўзгорках, на схілах, на папарах. Расьліна з дробнымі белымі і бляклa жоўтымі кветачкамі з далікатнымі лісточкамі. Пладастручкі, зь іх восеньню вылушчваюцца зярняткі (крупкі). З-за мноства гэтай расьліны рэчку назвалі Крупкай, а затым і вёску Крупай, а пасьля вайны абрасеілі, назвалі Крупава. Вядома мноства паселішчаў у краіне з падобнымі назвамі: Крупейкі, Крупіца, Крупкі, Круплі, Крупля, Крупня, Крупскі, Круповічы, Крупішчы і г. д. У Лідзе і на Лідчыне шырока распаўсюджаны прозьвішчы: Крупа, Крупіца.

Пра крупы і Крупу з 17 стагоддзя вядома цікавае чатырохрадкоўе, складзенае езуітам Войцахам Інесам.

*Наш Ягело збіл кжыжакі,*
*І тэн Крупа хцэ быць такі.*
*Дармо сушыш музг нябожэ,*
*Крупа ядлем быць не можэ,*

якое дазваляе вылучыць і дзьве іншыя просьценькія версіі. Пад Крупай маглі мецца на ўвазе як звычайныя крупы, так і прозьвішча. Абодва азначэньні ў сярэднявеччы шырока скарыстоўваліся.

# Лідчына ў мастацкіх творах

## *Кацярына Янчэўская*

Лідчына, як і ўвогуле Гарадзеншчына, для многіх мастакоў была крыніцай натхненьня і месцам духоўнага сталеньня. Цікавае гістарычнае мінулае, прырода вабілі такіх майстроў пэндзля і алоўка, як І. Пешка, В. Грязноў, В. Дмахоўскі, М. Кулеша, Н. Орда, Ф. Рушыц, Я. Драздовіч. Што датычыцца Ліды, то гэтаму спрыяла і выгаднае геаграфічнае становішча: побач Гародня, Вільня, Наваградак, першая сталіца ВКЛ. Творы, прысьвечаныя Лідчыне, сталіся для гэтых мастакоў адной з прыступак уваходжаньня ў еўрапейскую культуру.

Адзін зь першых малюнкаў Лідзкага замка належыць Юзафу Пешку (19.2.1767, Кракаў, - 4.9.1831), польска-беларускаму жывапісцу. Ю. Пешка - прадстаўнік акадэмічнага класіцызму, асноўнага кірунку ў мастацтве Рэчы Паспалітай у канцы 18-га -- пачатку 19-га стагоддзя.



***Ю. Пешка. Аўтапартрэт***

Вучыўся Ю. Пешка ў Д. Эстрэйхера ў Кракаве і з 1786 года ў Ф. Смуглевіча ў Варшаве. З 1793 па 1812 год жыў у Гародні і Менску. Часта наведваў Магілёў, Нясьвіж, Ліду, Сьмілавічы, Дукору, Вільню. З 1812 года жыў у Кракаве, з 1815 года - прафесар жывапісу і малюнка ў Школе прыгожых мастацтваў.



*Ліда. Акварэль Ю. Пешкі. Канец 18 стагоддзя.*

Пісаў алегарычныя і гістарычныя кампазіцыі, партрэты, пейзажы. У калекцыі пейзажаў Ю. Пешкі 12 малюнкаў Віцебска, 3 - Магілёва, 2 - Гародні, па аднаму Менска, Нясьвіжа, Ліды, Наваградка, Смалян, Лошыцы. Малюнкі выкананы акварэльлю, акрамя гарадзенскіх, зробленых тушшу, на аркушах паперы 45х70 см.

Маецца малюнак Ліды і ў Міхала Кулешы(1795,1800?-1863). Памешчаны ён у альбоме выдадзеным Юзафам Крашэўскім. Вядома, што Міхал Кулеша нарадзіўся ў Вільні ў збяднелай шляхочай сямы. У 1821 паступіў у Віленскі ўніверсітэт, дзе лічыўся адным са здольнейшых вучняў. Як найбольш таленавітаму Я. Рустэм дазволіў яму працаваць у сваёй майстэрні. У гэты ж час Кулеша займаецца ў класе скульптуры пад кіраўніцтвам Казіміра Ельскага. У 1823 г. за ўдзел у таемным таварыстве філарэтаў прыцягнены да адказнасьці. У 1824 — адпушчаны і выязджае ў Пінскі павет, вёска Луно. Пра далейшы лёс зьбераглося мала зьвестак. Цікавасьць да гісторыі роднага краю ўзьнікла ў Міхала Кулешы ў час вучобы ў Віленскім універсітэце, дзе ён сябраваў з вядомым беларускім этнографам, паэтам Я. Чачотам. Падарожнічаючы па Беларусі і Літве, рабіў шмат замалёвак, пісаў пейзажы, эцюды, па снове якіх пазьней стварыў гістарычныя кампазіцыі. Мастак меркаваў выдаць серыю альбомаў, якая павінна была складацца з некалькіх дзесяткаў графічных лістоў з выявай найцікавейшых мясьцін Беларусі, Літвы, Валыні. Сярод гэтых прац — **выява Лідзкага замка**. На жаль, альбом, выдадзены пры дапамозе Юзафа Крашэўскага - адзіны прыжыццёвы альбом Міхала Кулешы.



*Лідзкі замак. Малюнак М. Кулешы, 1825 г.*

У 1844 г. М. Кулеша жыў у Гародні. Юзаф Крашэўскі называе М. Кулешу лепшым з сучасных летапісцаў, які ў супрацьвагу многім "рамесьнікам" заўмаўся сапраўднай творчай працай. Дзякуючы яму, мы маем магчымасьць бачыць Каложу ў яшчэ непашкоджаным выглядзе. М. Кулеша аўтар гістарычных твораў "Гетман", "Атака гусараў" і інш. з характэрнымі рысамі рамантызму. **Апошнія гады жыцця правёў у Беластоку,** дзе выкладаў малюнак.

Літаграфія краязнаўца, рысавальшчыка, дасьледчыка старажытнай беларускай архітэктуры, матэрыяльнай культуры і мастацтва В. Грязнова (?—27.2.1909 г.) "Выява Лідскага замка 14 ст." захоўваецца ў Эрмітажы. В. Грязноў скончыў Строганаўскае вучылішча (1862). З 1864 г. жыў у Вільні, выкладаў маляваньне ў гімназіях. Сабраў унікальную калекцыю прадметаў беларускай культуры і побыту, навукова апісаў і замаляваў Барысаглебскую царкву ў Гародні, замак у Лідзе, цэрквы-крэпасьці ў Сынкавічах Зэльвенскага і Мураванцы Шчучынскага раёнаў. Пры даследваньні Каложы ў Гародні зьвярнуў увагу на наяўнасьць галасьнікоў у муроўцы царквы і выявіў знакі на цэгле. Многія малюнкі Грязнова сталі ілюстрацыямі да кніг П. Бацюшкава ("Беларусь і Літва", 1890 г.), І. Корчынскага ("Старажытная Каложская царква ў імя св. князёў Барыса і Глеба ў Гародні" (1892) і інш. З партрэтаў-абразоў другой паловы XVII ст. да нас дайшоў партрэт Афанасія Філіповіча, толькі дзякуючы В. Грязнову, бо арыгінал не зьбярогся.

В. Грязноў замаляваў Лідзкі замак з паўднёва-заходняга боку. Малюнак датуецца першай паловай XIX ст. А. Тру-саў лічыць, што найбольшай дакладнасьцю вызначаецца менавіта карціна В. Грязнова.

У гэты ж перыяд замак малюе В. Дмахоўскі (1807—1862) "Клодары Ларташ віленскіх ваколіц" называлі яго сучасьнікі. Ураджэнец в. Самішут Ашмянскага павета, ён зьяўляўся мастаком, скульптарам, дэкаратарам, паўстанцам. Вучыўся на факультэце літаратуры і вольных мастацтваў, дзе сустрэўся са сваім земляком Юліянам Карчэўскім. З універсітэта Дмахоўскага прызвалі ў войска. Магчыма, ён зьяўляўся сябрам адной

з таемных студэнцкіх арганізацый, за што і быў "здадзены ў салдаты". У 1831 г. ўжо ў чыне падпаручніка XIII уланскага палка ён прыняў удзел у паўстаньні 1830-31 г.г. Пасьля задушэньня паўстаньня быў вымушаны эміграваць за мяжу. Пасьля вяртаньня працаваў шмат і напружана, яго работы на той час былі шырока вядомы ў Беларусі, Летуве і Польшчы. **У асноўным замалёўваў месцы, звязаныя з жыцьцём і дзейнасьцю А. Міцкевіча, асабістым сябрам якога быў.** В. Дмахоўскага без перабольшваньня можна лічыць заснавальнікам рэалістычнага пейзажу. Аўтар рамантычных пейзажаў **"Радзіма", "Замак і вежа ў Троках", "Руіны замка ў Гальшанах", "Замак ў Крэве", "Замак у Лідзе".**


Вінцэнт Дмахоўскі

Вялікую цікавасьць выклікае **і асоба жывапісца, графіка, удзельніка паўстаньня 1863-64 гг.** Міхала Эльвіра Андрыёлі. Ён нарадзіўся 2 лістапада 1853 г. у Вільні ў сям'і настаўніка маляваньня, які паходзіў зь Італіі. Пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у бацькі. У 1855 г. Андрыёлі скончыў гімназію ў Вільні і паехаў у Маскву, дзе паступіў на медыцынскія курсы. Але хутка Міхал перайшоў у маскоўскую школу жывапісу, скульптуры і дойлідства, дзе яго выкладчыкам быў знакаміты беларус Сяргей Заранка. Сваю адукацыю Андрыёлі працягваў затым у Пецярбургскай акадэміі мастацтваў і акадэміі Святога Лукі ў Рыме, дзе лічыўся адным з лепшых вучняў.


Міхаіл Андрыёлі

Паўстаньне 1863 г. мастак сустрэў ў Вільні. Андрыёлі ўступіў у атрад Людвіка Нарбута, змагаўся разам з ім на Гарадзеншчыне, быў сьведкам гібелі камандзізра паўстанцаў ля Дубічаў (раней Лідзкі павет), прысьвяціў гэтым падзеям адзін са сваіх вядомых твораў "Сьмерць Людвіка Нарбута каля Дубічаў". Пасьля разгрому паўстаньня Андрыёлі, здолеўшы збегчы з турмы, некаторы час жыў за мяжой — у Лондане, Парыжы і іншых еўрапейскіх гарадах. У 1866 г. як эмісар эміграцыйнага камітэта мастак спрабаваў перайсьці мяжу Расейскай імперыі, але быў схоплены і асуджаны на пакараньне сьмерцю. Жорсткі прысуд замянілі высылкай у Вятку, дзе Міхал жыў да **1871 г.** У Вятцы М. Э. Андырёлі стаў настаўнікам будучых рускіх мастакоў **В. і А. Васняцовых**. У 1871 г. вярнуўся са ссылкі, але яму было забаронена жыць у родным краі і мастак Андрыёлі спыніўся ў Варшаве, дзе працаваў як графік-ілюстратар і мастак. У хуткім часе імя Андрыёлі стал вядомым у Еўропе як імя майстра мастацкай ілюстрацыі. **У 1883 г. па запрашэньні фрнцузскай выдавецкай** фімы "Фіршін — Дзідо" Адрыёлі выязджаў у Парыж. Фірма планавала выдаць раманы Фенімора Купера, ілюстрацыі да якіх прапанавалі зрабіць мастаку. Андрыёлі зрабіў ілюстрацыі да чатырох раманаў знакамітага амерыканскага пісьменьніка: "Апошні з магіканаў", "Піянеры", "Прэрыя" і "Містыка". Ілюстрацыі Андрыёлі карысталіся посьпехам у чытачоў як з-за іх адпаведнасьці літаратурнаму матэрыялу, так і па мастацкай вартасьці. Андырёлі рабіў таксама ілюстрацыі да твораў А. Міцкевіча, Э. Ажэшкі, У. Сыракомлі і інш. М. Андырёлі пражыў не вельмі доўгае жыцьцё. Памёр ён ад цяжкай хваробы ва ўзросьце 57 гадоў, у 1893 г.

Нелітасцівы лёс быў і да Напалеона Орды, мастака, кампазітара, педагога, пісьменьніка. Нарадзіўся ён пад Янавым у Варацэвічах, у сямьі адукаванага шляхціца. Бацька працаваў інжынерам-фартыфікатарам, маці была добрай піяністкай, зь дзяцінства вучыла іграць сына на фартэпіяна. Прыязджаў, жыў у іх радавым маёнтку і настаўнік маляваньня. Потым Орда скончыў Сьвіслацкую гімназію, працягваў вучобу ў Віленскім універсітэце. Орду залічылі на фізіка-матэматычны факультэт у 1823 г.) Год гэты ўвайшоў у гісторыю навучальнай установы трывожным часам — была ўчынена расправа над таемным студэнцкім таварыствам філаматаў. Але вальналюбства не ўдалося задушыць канчаткова — працягвала існаваць, дзейнічаць таемная суполка, студэнт Напалеон Орда таксама аказаўся ў ланцужку са "змоўшчыкамі". Яго выключылі з універсітэта, на параўнаўча невялікі тэрмін (год і тры месяцы) пасадзілі ў турму. Пасьля вызваленьня вярнуўся ў Варацэвічы займаўся самаадукацыяй. Калі пачалося паўстаньне 1830 г., Орда ўжо служыў у коннай гвардыі Літоўскага корпуса, што амаль цалкам перайшоў на бок інсургентаў. Пасьля паўстаньня ў час ганеньняў на паўстанцаў Ордзе ўдалося пазьбегнуць арышту, але ўсё роўна на ім вісела кляймо інсургента — Напалеон Орда вырашае эміграваць у Парыж. У Парыжы Н. Орда наведае майстэрню Жырара (франц. пейзажыст), зь не меншай ахвотай бярэ урокі музыкі і кампазіцыі ў Фрыдэрыка Шапэна. Яны разам музыцыравалі ў салоне Жорж Санд, дзе хутчэй за ўсё і пачуў Н. Орду Ферэнц Ліст, высока ацаніў талент маладога музыканта. У далёкім Парыжы лёс зьвёў Орду таксама і з Адамам Міцкевічам. Дасягнуўшы высокага майстрства як піяніст, Орда адначасова карыстаўся вядомасьцю і як адзін з лепшых у Парыжы выкладчыкаў музыкі. У 1873 г. у Варшаве выйшла кніга Н. Орды "Граматыка музыкі", у якой ён абагульніў уласны трыццацігадовы досьвед навучання ігры на фартэпіяне. Орда стаў мастакомвандроўнікам, мастаком-пілігрымам, яшчэ жывучы ў Парыжы. Ён рабіў экспедыцыі па Іспаніі, Англіі, Шатландыі, Галандыі,


Напалеон Орда

Партугаліі, Скандынаўскіх краінах, прывёз адтуль дзесяткі, сотні архітэктурных пейзажаў. Але ўсё роўна ў душы яго жыла вялікая мара — вярнуцца дамоў, на Бацькаўшчыну. Толькі ў 1856 г. Н. Орда змог вярнуцца на радзіму. Два гады жыў у Гародні, потым ў Пінску, Варанцэвічах. Н. Орда робіць своеасаблівую энцыклапедыю архітэктурных пейзажаў Беларусі. Нягледзячы на ўжо сталы ўзрост, пачынаючы з 1873 г. Орда пасьпеў стварыць 8 серый-альбомаў — усяго 260



*Лідзкі замак. З малюнка Напалеона Орды. 19 ст.*

лістоў-літаграфій са сваіх архітэктурных пейзажаў. Орда замаляваў і Лідзкі замак, суправадзіўшы літаграфію падрабязнай гістарычнай даведкай: **"Вельмі старажытнае мястэчка, руіны замка, пабудаванага вялікім князем літоўскім Гедымінам у 1323 г.** У гэтым замку бывалі вялікія князі Вітаўт, Ягайла, Аляксандр Ягелончык. Тут пражываў Тактамыш — хан татарскі. Старастам лідзкім быў Хаджы Гірэй — пазьнейшы хан крымскі. Замак разбураны ў вайну са шведамі".

Орда памёр у Варшаве у 1883 г. ва ўзросце 76 г. Было выканана і апошняе пажаданьне Напалеона Орды — яго прах быў перавезены на радзіму ў Янаў і пахаваны ў сямейным склепе. У некралогу на сьмерць Н. Орды Адам Плуг пісаў: "... Гэта быў пісьменнік, мастак, музыкант, але перш за ўсё сумленны патрыёт, які вельмі любіў свой край...."

***"Вялікая любоў была гэтага чалавека па родная зямлі,-- пісаў М. Танк. — Яна раскрывала перад мастаком харство ляснога яе кута і часавую далячынь — стагоддзі айчыннай гісторыі і зьмянлівую загадкавасьць Сусьвету"***.

Гэтыя радкі пра мастака, майстра дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, этнографа, фальклярыста, пісьменніка Язэпа Драздовіча. Ён нарадзіўся ў засьценку турмы Дзісьненскага павета 13 кастрычніка 1888 г.: **"Беларускім Леанарда да Вінчы"** называў яго мастак П. Сергіевіч. Сам жа Драздовіч называў сябе даволі сціпла "аматарам тэарытычнай астраноміі або проста вандроўным мастаком. Яшчэ ў дзяцінстве маці гаварыла Язэпу: " Вучыся і пазнай нябесныя бегі". Сын выканаў яе просьбу ў 1931 г. у Вільні выходзіць кніга Драздовіча "Нябесныя бегі". У творчасьці Драздовіча пераплецены гісторыя і комсам. Пасьля навучаньня ў Вільні ў акадэміка Трутнева, ён працуе як мастак-ілюстратар, афармляе, напрыклад, кнігу "Курганная кветка" Канстанцы Буйло. У гэты ж час падоўгу сядзіць ў бібліятэках, вывучаючы працы па геаграфіі, геалогіі, астраноміі, гісторыі культуры. У 1915 годзе Драздовіч серыю сімвалічных малюнкаў і перадае яе ў Пецярбург прафесару Эпімаху Шыпіле. На жаль, з гэтай серыі захавалася толькі некалькі малюнкаў па тэме "Архітэктура на Месяцы", "Ахвярапрынашэнне". Цікавасць Я. Драздовіча да гісторыі, зведання яе таямніц прысутнічае ва ўсёй яго творчасьці. Дыяпазон яго прац: ад замалёвак сярэднявечных замкаў да вобраза легендарнага князя-чарадзея Ўсяслава.



**Язэп Драздовіч**

У **1927-1930** г. Я. Драздовіч працуе настаўнікам маляваньня ў Навагрудзкай гімназіі, яго вучні ўспамінаюць, што ён неяк духоўна прымушаў кожнага працаваць у мастацтве. Ён любіў свой народ, цікваўся касмалогіяй. Язэп Драздовіч — фенамен беларускасці... У гэты час Язэп Драздовіч і замалёўвае Мірскі замак, руіны замкаў у Навагрудку, Крэве, Лідзе. У 1929 г. выйшаў цэлы альбом **"Ліда"**. "Учора і сёння меў прыемнасць агледаць велічава прыгожыя муры, як старажытнейшы помнік нашай краёвай



*Язэп Драздовіч. Выгляд замчышча з паўднёва-ўсходняга боку (альбом "Ліда", 1929 г.)*

беларускай архітэктуры". Язэп Драздовіч адкрыў для бел. мастацтва таксама і касмічную тэму. Тут можна ўспомніць такія яго працы, як "Жыццё на Марсе", "Жыццё на Сатурне" "Космас", "Панарама мясяцовага горада", "Сустрэча вясны на Сатурне". Вельмі цяжкімі матэрыяльна і духоўна былі апошнія гады жыцця мастака. Пахаваны ён у в. Ліжмены Глыбоцкага раёна.

"Мяне яшчэ пашукаюць", — гаварыў Язэп Драздовіч у апошнія гады свайго жыцця, вандруючы па вёсках Дісеншчыны. Гэтыя словы можна аднесьці і да іншых беларускіх мастакоў, імёны якіх доўгі час нават не ўспаміналіся, а зараз мы шукаем зьвесткі пра іх творы, але, на жаль, многае з духоўнай спадчыны беларускага народа ўжо беззваротна страчана.



*Язэп Драздовіч. Заходні мур замка (альбом "Ліда", 1929 г.)*

В. Ампілаў
В. Сьмірноў

# У маленькім горадзе Лідзе...

(Працяг. Пачатак у № 1, 2, 3)

## МАГНІТНАЯ МІНА

Раніцой, як толькі пачалі вырысоўвацца хаты на пабляклым небе, Толя Качан запрог выпрашанага ў суседа коніка, абуў балотныя боты і не сьпяшаючыся выехаў з двара. Зьвярнуў на палявую дарогу. На дне воза, у анучах, пад сенам патроны.

Алесь ад імя партызанскага камандаваньня даў Толю важне даручэньне — даставіць у лес “расейскія патроны”, якіх не хапала для станкачоў.

Пясчаны ўзгорак, за ім — рэчка, брод, а там і балоты. Па іх прайходзіць нябачная мяжа, якая аддзяляе партызанскую зону ад нямецкай. Конь, спружынячы тонкія ногі ледзь-ледзь цягне воз па пяску. Горача, вясна выдалася на рэдкасьць ранняя, дружная, сонечная. Яркім белым і ружовым полымем цьвітуць сады ў Лідзе. Здалёк горад быццам патануў у квяцістай пене, толькі стрэхі цямнеюць на ёй плямамі.


*Толя Качан*

Калі чалавеку дзевятнаццаты год, а вакол вясна — што яшчэ трэба яму для шчасьця? Толя ўвесь напоўнены тым асаблівым хмяльным пачуцьцём бадзёрасьці, якое дае здароўе і маладосьць. Забытыя ўсе трывогі, усе хваляваньні — не бяда, што побач шныраць ворагі, што кожную секунду яны могуць наскочыць на цябе і рэзкай пстрычкай стрэлу кінуць на квяцістую, напоўненую густым вясновым водарам зямлю.

У васемнаццаць гадоў не верыш у магчымасьць пагібелі.

І як гэта здорава, што Алесь даручыў такую адказную справу менавіта яму, Толю Качану, сарамліваму, нехлямяжаму Толю, якога дражнілі ў школе дзяўчаты і які, выходзячы да дошкі, ніколі ня ведаў, дзе падзець свае доўгія, моцныя рукі.

Вось і спуск да рэчкі. Конь ідзе шпарка. Толя падскочыўшы, сядае на воз і, адгарнуўшы посьцілку пытаецца:

— Як, Ніначка, трываеш?

На сене, пад посьцілкай, згарнулася ў клубочак дванаццацігадовая сястрычка Толі, рабаваценькая Нінка. Твар яе пакрыты кропелькамі поту, мокрыя валасы зьбіліся на лбе.

— Горача!

— Ну пачакай крыху, хутка і лясы.

З боку лесу, бачыць Толя, не сьпяшаючыся едуць конна трое. Едуць наўпрост да броду, дзе дарога ўпаўзае ў рэчку і, вынырнуўшы з цяжкасьцю ўлазіць на пясчаны ўзгорак. Свае? Чужыя? Ужо можна пазнаць на фоне руні і сьвежай буйнай травы іх чорныя фуражкі, чорныя курткі, прашытыя двума радамі сьветлых гузікаў. Шуцманы.

Толя, стрымліваючы хваляваньне, старанна папраўляе посьцілку. Пярэдні паліцыянт злазіць з каня, сьвідруе вачыма хлопца ў чорных балотных ботах.

— Куды едзеш?

— У Ганчары, да цёткі. Сястрычку вязу — захварэла.

Паліцыянт адварочвае край посьцілкі. Зьбялелы рабацінавы твар, кропелькі поту, валасы, што зьбіліся мокрымі пасмамі на лбе.

— Чым хворая?

— Тыф.

Паліцыянт рэзка кідае посьцілку, нагнуўшыся гідліва палошча ў вадзе пальцы:

— Прыдурак, адразу трэба гаварыць!

Вось і лясы... Ніна ўстае:

— А назад я пешкі буду ісьці, добра?

— Не, Нінка, ты ўжо пацярпі.

Назад давядзецца ехаць таксама не паражняком. Алесь гаварыў, што партзыны дадуць магнітную міну.

Шумяць над галавой панямонскія сосны, змрочна, ціха ў бары. Не сустрэнеш тут паліцыянта — партызанскія пайшлі краі.

Маша Кастраміна — лепшая афіцыянтка станцыйнай сталоўкі. Вайскоўцы і чыноўнікі патрабуюць, каб іх абслугоўвала фрайляйн Маша — харошанькая прыветлівая дзяўчына ў асьляпляльна белай наколцы, у аблямованым карункамі фартушку.

Пасьля абеду, калі паны афіцэры пакідаюць сталоўку, Маша ідзе ў дэпо. Усе ведаюць, у дэпо працуе нарачоны фрайляйн, дзевятнаццацігадовы сьлесар Клімко. Кукелка па просьбе Машы выпісаў ёй пропуск у дэпо, каб яна магла падкормліваць свайго сьлесара.

Ніхто ў Лідзе, акрамя падпольшчыкаў не здагадваецца, як цяжка даюцца Машы, дачцэ старога рабочага Кастраміна, усьмешкі, якія даводзіцца раздаваць нахабным, самазадаволеным “новым гаспадарам”, гэтыя “бітэ шон” і “данкэ шон”, што рассыпаеш з раніцы да вечара ў сталоўцы, гэтыя паклоны, кніксены...

У куточку кухні Маша рыхтуе абед для свайго нарачонага. Магнітная міна, — для яе давялося узяць вялікі рондаль — прыкрытая пластам пюрэ. Захапіўшы посуд, Кастраміна ідзе да прахадной з дошак, дзе


*Маша Кастраміна*

дзяжурацць двое жаўнераў. Звычайна немцы абшукваюць усіх тутэйшых, але для Машы робяць выключэньне. Дзяжурны яфрэйтар разыгрывае жартоўную цырымонію праверкі, падымае вечкі рандэлькаў і строгім тонам пытае:

— А што тут, фрайляйн? О, фрайляйн, гэта не суп, гэта вадкасць для запальных бутэлек.

Дзяўчына высьлізгвае з прахадной, мінаючы чэпкія рукі яфрэйтара:

— Прыходзьце, панове, на кухню, там засталася кураціна.

Маша зайходзіць у змрочны будынак дэпо, дзе мітусяцца чорныя фігуры рабочых.

— Добры дзень, гер майстар!

— А, Маша! — пажылы майстар немец паказвае ў далёкі кут дэпо — Ён там.

Прысеўшы на кукішкі, Алесь з апетытам аплятае бульбу. Міны мінамі, а голад ня цётка. Міна незаўважана перавандроўвае з рандэлька ў аб'ёмную кішэню курткі. Маша са шкадаваньнем глядзіць на Алеся. Вось так павялося ў слабодках: мужы працуюць, а жонкі, урваўшы хвіліну, носяць ім у клунках гаршкі.

Патрыярхальныя звычаі, вясковыя ўклады ў рабочых слабодках Ліды. А чым кепскія гэтыя звычаі? Быў бы іншы час, не трывогай, не болем было б запоўнена Машына сэрца, а ціхай спакойнай радасьцю.

**Зь дзённіка Роберта Сасноўскага.**

"Нарэшце я атрымоўваю магнітную міну ад Алеся. Цяжкі металічны брусок. Што ж, ланцужок сувязі спрацаваў выдатна. Ад Толі Качана да Машы, ад Машы да Алеся, ад Алеся да мяне. Зараз застаецца апошняе, галоўнае — пакласьці міну ў механізм паваротнага круга. У будачцы, каля пульта кіраваньня паваротнага круга, звычайна дзяжурыць хто-небудзь зь нямецкіх чыгуначнікаў. Тутэйшым яны не давяраюць. Без паваротнага круга ні адзін паравоз ня зможа ні выйсьці з дэпо, не зайсьці. А зараз тут як раз пяць адрамантаваных паравозаў, падрыхтаваных да адпраўкі.

Я цягаюся па дэпо і паглядваю з варот на будачку, дзе сядзіць дзяжурны. Ня можа ён тырчаць там вечна! Я ведаю, гэты стары немец раз-пораз бегае ў сталоўку, каб заправіць свой тэрмас кавай. Ён, навогул, няўрымсьлівы, трэба толькі вычакаць хьвіліну.

У кішэні ў мяне ляжыць міна — адна-адзіная магнітная міна, якая была ў партызан. Яна прызначана толькі для паваротнага круга, на дробязь такія штукі траціць нельга. Я павінен чаго б гэта не каштавала прабрацца да будачкі.

Вось прайходзіць,акуратна перастаўляючы ногі Вальтар. За ім бяжыць яго любімая аўчарка. Немец з будкі глядзіць усьлед Вальтару і не сьпяшаючыся накіроўваецца да сталоўкі. Я бачу яго прыгорбленую сьпіну. Хутка ён хаваецца за вуглом дэпо. Міма мяне, зьлёгку штурхнуўшы плячом, прайходзіць Вася Саўчанка.

— Парадак.

Я накіроўваюся да будкі. Тыл забясьпечвае Вася. Ён стаіць каля варотаў. Яго справа затрымаць кожнага, каму ўзбрыдзе ў галаву высунуцца з дэпо. З аднаго боку мяне хавае ад вачэй каменны будынак дэпо, з другога — высокі плот з калючым дротам. На секунду заглядваю ў будку і соваю міну ў паваротны механізм. Паварочваю запал, зараз міна пачынае награвацца. Кіслата разьеўшы засьцерагальнікі, прымусіць замкнуцца кантакты. Позьнім вечарам адбудзецца выбух.

Я іду ўздоўж калей да вугальнага склада, пераскокваю цераз шпалы, як хлапчук. Я гатовы сьпяваць ад радасьці. Наце вам! Атрымайце сюрпрыз. Ці тое яшчэ пабачыце, мы кідаем вам выклік. Вы ўзброены да зубоў. У нас няма нічога, акрамя нянавісьці да вас і прагі волі. І ўсё-такі мы кідаем выклік".

## Сустрэча на рынку

У нядзелю Сасноўскаму належала сустрэцца з сувязным Жукавым, каб атрымаць ад яго новае заданьне. Сустрэча, як звычайна, павінна была адбыцца на рынку. Адпрасіцца на рынак было для Сасноўскага справай не складанай. Немцы ахвотна адпусьцілі яго і заадно папрасілі выканаць некалькі гандлёвых даручэньняў. Сярод іх Роберт лічыўся гешэфтмайстрам, сьпецыялістам па гандлі. Славу гешэфтмайстра ён заслужыў у выніку аднаго камічнага эпізода. Неяк ён накіраваўся на чарговае спатканьне з Жукавым і па дарозе на рынак сустрэў свайго знаёмага Тамашэўскага, паляка, які працаваў у дэпо. Тамашэўскі вёў на кірмаш казу прадаваць. Быў ён чалавекам гаварлівым, прыліпчывым і не адставаў ад Роберта ні на крок.. Сасноўскаму давялося прадаць казу Жукаву. Ні Роберт, ні Жукаў не пасьпелі пералічыць грошы, і, калі пан Тамашэўскі перагартаў крэдыткі, аказалася, што Жукаў сьпяшаючыся ўручыў яму тысячу васемсот марак. А самая лепшая каза ў Лідзе не каштавала і тысячы.

На шчасьце, гэтая памылка абярнулася Сасноўскаму на карысьць. Тамашэўскі, блытаючы быль і небыліцы, расказваў кожнаму сустрэчнаму, як заядла пан Роберт гандляваўся з багатым селянінам і сумеў абдурыць яго. Дзякуючы доўгаму языку Тамашэўскага ўся станцыя даведалася пра гэты выпадак. Роберт атрымаў ганаровую годнасьць гешэфтмайстра. Зараз яму без канца паступалі замовы — то трэба было абмяняць жалеза для плугоў на курыцу, то парашутны шоўк на гусей, то яго прасілі даведацца, дзе можна дастаць парася ў абмен на ўкрадзеную якім-небудзь фрыцам хустку. Слаўныя прадстаўнікі германскага войска былі заядлымі гандлярамі...

У суботу, прыхапіўшы з сабой Саўчанку — ён нёс скручанае ў рулон ацынкованае жалеза, — Сасноўскі адправіўся на рынак. На рынкавай плошчы адбывалася сапраўдане вавілонскае стоўпатварэнне. Недасьведчаны чалавек заблукаў бы ў хаатычным зьмяшэньні вазоў і целаў. Аднак рынкавая стыхія падпарадкоўвалася адпаведнаму закону. Свае, строга ўстаноўленыя месцы займалі гандляры сольлю — дэфіцытным таварам. Грудкаватая, вільготная соль прадавалася на шчэпаці і прыгоршчы. Ні пра якія вагі ні было і гаворкі, таму дробнакосны пакупнік ішоў да прадаўцоў з далонямі пабуйней, а клієнтура, што вызначалася магутным целаскладам аддавала перавагу выкарыстаньню ўласных далоняў.

Асобныя месцы, "куткі" і "пятачкі", займалі махорачнікі, гадляваўшыя самасадам з дамешкаю вішнёвага ліста, самагоншчыкі, якія кляліся, што ў іх, "зельлі" няма ні грама каўстыку, які звычайна дабаўляўся "для моцы". Ганаровыя рады пад навесам належалі шпікулянтам, што нажываліся на куплі-продажы крадзеных немцамі трантаў, арыстакраты рынка, якія карыстаіся апекай адміністрацыі. Адным словам, рынак выклікаў да жыцьця такое мноства гандлёвай сволачы, што чэсны чалавек, як толькі ён трапляў туды, імгненна бываў акалпачаны і зьбіты з толку карпарацыяй гешэфтмайстроў.

У бульбяным куце на возе зь мяшкамі сядзеў Пеця Жукаў, стараста вёскі Дакудава. Кірмашны гоман дазваляў гутарыць спакойна.

— Слухай, Роберт, ты прынёс мне рэшту з тых марак?

— Якую рэшту?

— Калі будзеш прадаваць такіх дарагіх коз ад нашай скарбніцы нічога не застанецца!

Роберт ніколі не пераставаў зьдзіўляцца ўраўнаважнасьці партызанскага сувязнога, яго здольнасьці не ўнываць пры ўсіх абставінах. Ад круглага, румянага, без адзінай маршчынкі твару Жукава, яго шырокай усьмешкі веяла жыцьцялюбствам, дабрадушнасьцю, задавальненьнем сабой. У шыкарным суконным кіцелі, зь нямецкімі гузікамі, неаб'ёмных галіфэ, да бляску начышчаных ботах, чырванашчокі стараста быў проста беспадобны.

Людзі, добра знаёмыя з Жукавым, ведалі, што за яго зьнешняй лёгкаважкасьцю і прастадушнасьцю, гэтым прыродным камуфляжам, хаваецца мужны і цэльны характар, глыбокі і вострый розум.

— Слухай, Роберт, важная справа да цябе і хлопцаў. Пара нам паказаць здраднікам, што савецкія законы дзейнічаюць!

— Судзіць?

— Так, судзіць.

Жукаў працягнуў Сасноўскаму анучку, у якую было загорнута нешта цяжкае.

— Два пісталеты і патроны.

— Пятро, а як там на фронце?

Усьмешка зьляцела з дабрадушнага твару сувязнога.

— Стэпамі пайшлі, да Сталінграда...

З пісталетамі за пазухай Роберт пакінуў Жукава і, адшукаўшы Васю, накіраваўся да станцыі. Пацiскаючыся праз натоўп, ён аглянуўся, Жукаў, саскочыўшы з воза, гандляваўся зь нейкім старым у зялёным картузе.

Фашысцкія газеткі, што выходзілі ў Бедарусі пад час акупацыі, кожны дзень пісалі пра "зьверствы" і "рабункі" партызан. Падпольшчыкаў акупанты называлі "бандытамі". Фашысцкія зьвяругі, якія зрабілі масавы бандытызм дзяржаўнай практыкай, абвінавачвалі людзей, што падняліся на сьвятую абарону Радзімы, у бандытызме і крымінальных злачынствах. Пад гэтае прапагандысцкае выцьцё яны марадзёрствалі, растрэльвалі дзесяткі і сотні тысяч ні ў чым не вінаватых людзей, гвалцілі, катавалі.

... Цяжка знайсьці больш гуманныя, больш узьнёслыя і справядлівыя мэты, чым тыя, якімі кіраваліся партызаны і падпольшчыкі. Нават ва ўмовах нябачна жорсткай вайны, калі прага помсты стала ці не самым моцным пачуцьцём для кожнага зь іх, калі людзкое жыцьцё было ўшчэнт абясцэнена, яны працягвалі сьвята шанаваць нормы законнасьці і маралі.

Летам 1942 года ў хаце Клімко, адбыўся суд над здраднікамі і ваеннымі злачынцамі. На суд сабраліся амаль усе падпольшчыкі чыгуначнага вузла.

**З пратакола сходу падпольшчыкаў**

"Брут. Начальнік гарадзкой паліцыі. Немец, савецкі подданы, да вайны — асаднік. З ліпеня 1941 года на службе ў акупантаў. Выдаў гестапаўцам і СД звыш трыццаці камуністаў, камсамольцаў і грамадзянскіх работнікаў раёна. Прымае асабісты ўдзел у забойствах савецкіх грамадзян. Вынясены сьмяротны вырак.

Сашка, па мянушцы Боек. Камандзір батальёна "ахоўнікаў". Здраднік Радзімы. Забойца. Зімой 1941 года застрэліў быццам бы пры спробе ўцёкаў двух ваеннапалонных. Удзельнічаў у масавых расстрэлах у Кашарах. Расстрэльваў ксяндзоў, абвінавачаных у антыгітлераўскай прапагандзе. Зьдзекаваўся над габрэямі ў гета. Вырак — сьмяротная кара.

Суліма, старэйшы наглядчык турмы. Здраднік Радзімы. Выконвае абавязкі ката, расстрэльвае вязьняў. Прыгавораны да сьмяротнай кары.

Пінкевіч, бургамістр, здраднік Радзімы, па яго даносах арыштована не менш ста жыхароў горада. Многія расстраляны. Асабістага ўдзелу ў растрэлах не прымае. Скупляе ў немцаў рэчы арыштаваных. Вырак — сьмяротная кара.

Вальтар. Чыгуначны службовец, немец. Ваенны злачынец. Расстрэльваў цыганоў. Зацкаваў сабакамі трох ваеннапалонных, што працавалі на чыгунцы. Не раз заяўляў пра неабходнасьць агульнага зьнішчэньня беларусаў. Вырак — сьмяроная кара".

Станіслаў СУДНІК

# ПРА КНЯЗЯ І МІКІТУ

## (казка часоў перабудовы)

(Працяг. Пачатак у №3 за 1997 год)

VII

Ноч даўно пакрыла неба,
Толькі месяц — скібка хлеба

Хоча людзям пасвяціць.
Спяць усе. Адно не спіць

Наш Мікіта. Ён шчыруе,
Княжым выведам кіруе.

Захапіўшы тэлефоны,
Паднялі трызвон шалёны.

Справа ведаў вымагае,
Трэба ведаць, хто што мае,

Трэ падняць усе рахункі,
Бо пры гэдыкіх варунках

Можна ўляпацца ў бядноту,
Голаў страціш, не работу.

Мо ўсю ноч яны шманалі
Ды сямёрку адабралі.

Ды і гэтага шчэ мала,
Проста так не выпадала.

Каб вось гэтым "Так" сказаць,
А астатніх вон прагнаць.

Можа быць пад той мамэнт
Міжнародны інцыдэнт,

Ці які зласлівы шах
Нам устроіць "Карабах".

А таму патрэбен роздум,
Ці кампутарны звышрозум...

Толькі, толькі развіднела,
Жыццё ў замку закіпела.

Дворня стала шыкаваца,
Да прыёму рыхтаваца.

Вось і князь устаў на ногі,
Прэ Мікіта ад парогу.

"Так і так, прыдумаў, княжа,
Шмальцам пяты ўсім падмажам.

Не гадаць жа нам загадкі,
Хто іх ведае, мо падкіх

Трапіць некалькі адлётаў
З наддасціпнае галоты.

Змогуць спрытна адгадаць,
Што тады нам ім казаць?

А таму ўжо спазаранку
Мы складаем крыжаванку ,

Крыжаванку-пераклад.
Я ў тым бачу добры лад.

Сутнасць справы будзе ў тым,
Кавалерам каб усім

Крыжаванку не гадаць,
А адно перакладаць

З моваў модненькіх сваіх
Да на нашу. Паміж іх

Цэлды вечар ашываўся,
А не ўчуў, як ні стараўся,

Слоўца нашага ні разу.
Мы навучым іх адразу,

Што нас трэба паважаць,
Мову нашу шанаваць,

Бо вакол жа недавяркі
Ні гарэлкі і ні скваркі,

Як у нас, не называюць,
Нейк іначай выдумляюць,

Па пальскэму ці па руску,
Ды каб не па беларуску.

Хоць жаруць на поўну губу,
Каб на іх якую згубу".

"Мы, Мікіта, справу змажам,
З іх ніводзін не адкажа,

Бо калі прэм'ер на Кебіч
Сам язык не навярэдзіць

Родным словам беларускім,
Мы з табой мамэнт упусцім".

"За каго мяне ты маеш?
Проста, княжа, абражаеш,

Цэніш таней за запалку.
Тым, што трэба, мы шпаргалкі

Дзве гадзіны як паслалі.
Трэба ж хоць, каб прачыталі,

А то здарыцца, кітаец
Не прамоціць слова "заяц",

Ці, напрыклад, тое ж "мора"
Будзе пшэкаць, вось умора".

"Што ж на тым і парашылі,
Як хто скажа. што схітрылі,

Плюну сам таму я ў вочы,
Бо што ж гэта панства хоча,

Беларускі хлеб каб жраць,
Ну а нас не паважаць.

Бачыш верне іх ад мовы,
Дык бывай, васпан, здаровы,

Пры ў Расею і жаніся,
А ад нас ты адкасніся".

Гэтай гнеўнаю тырадай
Князь закончыў тую раду.

VIII

Дзевяць б'юць разоў куранты,
Марша рэжуць музыканты.

Кавалеры пруць да залы,
Іх за ноч шчэ болей стала.

Вось дабіліся да ладу.
Князь з высокага пасаду

Залу строга аглядае
І нарэшце пачынае:

"Ці не чулі вы, панове,
Тры гады закон аб мове

Маем мы на Беларусі,
Кожны ведаць зараз мусіць,

Мы законы паважаем,
Рад — не рад, але зважаем,

А таму ніяк не маю
Я правоў і не жадаю,

Каб дачку таму аддаць,
Хто не ўмее размаўляць

На дзяржаўнай нашай мове,
А таму вось вам, панове,

Усяго адно заданьне,
Для мазгоў практыкаваньне.

Мы тут склалі крыжаванку
На ўсіх мовах. варта брамку

Зачыніла ўжо за вамі,
Думаць будзеце ўсе самі.

Хто здалее тыя словы
Перакласьці адмыслова,

У радочкі запісаць,
Той і будзе княжы зяць".

Госьці ў зале зашумелі,
Зашапталі, загалдзелі,

Ды аркушы разабралі,
За сталы пазасядалі,

Упінаюцца мазгамі.
Валіць дым над галавамі.

У каго была шпаргалка,
У тых справа рушыць шпарка,

А ў астатніх справы дрэнь,
Бо ў мазгі, як у кішэнь,

Не залезеш. Што ж вядома,
Як у нас да мовы дома

Спела стаўленне гадамі,
Як яе тапталі самі.

Білі, нішчылі, гублялі,
На расейшчыну мянялі,

Да таго лічылі хамскай,
Што свіню на мове панскай

Да карыта запрашалі,
Аж "пажалуйста " казалі.

Хто тры дні пры Польшчы жыў,
Той у нас палякам быў.

"Проша" ён умеў казаць
Ды "мадлітву" прачытаць,

І ксяндзу ўглядаўся ў вочы
З адной думкай: "Што ён хоча?"

Як што трэба гаварыць,
Каб хаця не прагнявіць?"

Дзякуй Богу, што сягоння
Ужо той-сёй на ёй гамоніць,

Дзякуй Богу, дзякуй тым,
Хто жыццём усім сваім

Мову нашу бараніў.
Дзякуй Богу, я дажыў.

Слова роднае чуваць,
Стала многа азначаць,

Без яго не навучыцца
І, як бачым, не жаніцца.

Нат спадар міністр Казлоўскі
Так сказаў, што ў нашым войску

Ужо без мовы не служыць,
А таму яе вучыць

Пачалі ўсе генералы
І не грэбуюць не мала,

Бо з іх многія шчэ мусіць
З нашай роднай Беларусі

Не здалелі ўсё ўхапіць:
Дзецям лецішчы набыць,

Ці ад новае Айчыны
Не ўварваў шчэ хто машыны,

Мо каторы шчэ з унукаў
Не прыладжаны ў навуку...

Ну, ды добра, гэта словы,
Хай крадуць, ды вучаць мову.

Вось сышла гадзіна часу,
Князь, кульнуўшы кухаль квасу,

Даў сігнал спыніць іспыты,
І з аркушамі Мікіта

Ужо да князя падбягае.
Князь паперкі разглядае.

Так і ёсць, адно сямёра,
Тых, каго абралі ўчора,

Адалелі крыжаванку,
Хвост трымаюць абаранкам.

А народ быў не тутэйшы,
І за князя багацейшы,

І замежна-ганаровы,
Ну, што трэба, адным словам.

А надалей справа лёгка
Ўжо пайшла. Князь ведаў, вока

На каторую з дачок
Хто паклаў. І справе толк

Хутка, спрытна задавалі
І вяселле рыхтавалі.

IX

Завязалі вузел гэты,
Шум і галас на паўсвету,

Ці там будні, ці нядзеля,
Справа рушыць да вясельля.

Цётка Гэля ўсім адразу
Шыла вэлюмы тым разам,

Бо хаця ў краях заможных
Хутка ўсё, што трэба, можна

Ці купіць, ці заказаць,
Мусім тое мы сказаць,

Прыгажэй за нашы ўборы,
За вяночкі і за ўзоры

Вы не стрэнеце нідзе.
Беларусь тут рэй вядзе.

А таму і ні ў Парыжы,
І ні далей, і ні бліжай.

Вам такога не знайсьці,
Хоць мо цэлы сьвет прайсьці...

Ну ды знае цётка справу,
І ўдалося ўсё на славу,

Бо дзяўчаткі выглядалі,
Нібы кветкі расьцьвіталі.

Ды ўзьнікае тут пытаньне,
Як адбудзецца вянчаньне?

Маладыя — каталічкі,
Маладых жа вер не злічыш:

У Марыны Надзір-шах,
Мусульманскі падзішах,

У Ірыны Самат-хан,
Быў таксама з мусульман.

Рэня мела хлопца Джона,
Быў ён родам з Лісабона,

А Алесечка прыдбала
З Бундэсвера генерала.

Таню браў з радзімай хаты
Нейкі лысы і гарбаты.

Быў калісьці прэзідэнтам,
Ды здалеў адным мамэнтам

Развaліць сваю дзяржаву,
Праўда грошыкі і славу

Меў і зараз не благія,
А дзяржавы ёсьць другія.

Што ж Наташка з роднай хаты
Мела выехаць у Штаты,

Толькі Галя не здалася,
Блізка дому засталася.

Дык вось з гэтага раскладу
Не так проста, каб да ладу

Лёгка, хуценька дайсьці
І развязак той знайсьці.

X

Што ж рабіць? Касьцёл Нясвіжскі
Быў адзіны толькі блізка.

Цэркву трохі пашукалі,
Ды пра Стоўбцы прыгадалі,

А з мячэцьцю справы дрэнь,
Мусульмане ж, як крамень.

Што ты хочаш вырабляй,
А мячэць ім падавай.

А па ўсёй па Беларусі
Толькі ў Іўі мячэць мусіць

Шчэ ўсяго і застался,
Што ж рабіць? Ды тут знайшлася

У Мікіты зноўку думка:
"Час, мой княжа, у нас не гумка,

Не расьцягнеш, каб чакаць,
Ды па Іўях раз'язджаць.

Тут у Лані ёсць брыгада,
Зарабіць мужчыны рады,

Хай ім толькі намалююць,
І за ноч мячэць збудуюць".

Што ж майстроў у нас, дай Божа,
Робяць хутка і прыгожа.

Шчэ алоўкаў не вастрылі,
Пілы ўжо загаварылі,

Шчэ паперу не дасталі,
Ужо сякеры загулялі,

Покуль там чарцёж чарцілі,
Тут аснову ўжо зрабілі

І з калгаснага гумна
Ўсё злажылі да відна.

Князь, шчасьлівы, ледзь не плача,
Ды знянацку — незадача:

Хоць за ноч усё злажылі,
Уваход не стуль зрабілі.

Што рабіць? Хоць верць, хоць круць,
А мячэць не павярнуць.

Тут не розум трэба — два,
Цз Мікіты галава.

“Як мячэць не пвярнуць,
Трэба сьвет вакол крутнуць”.

Людзі спрытна шчыравалі
І паўсюль паркаль куплялі.

Нада ўсім наўкольлем спрэс
Стаў вялізарны навес.

Расьцягнулі і напялі,
Сонца там намалявалі,

Трошкі хмарак, трошкі небы,
Глядзь і стала ўсё, як трэба.

Час даўно сышоў ад раньня,
Трэба думаць пра вянчаньне.

Маладыя зноў жа ў зборы,
Кожны ў новенькім уборы.

А машыны табунамі
Загацілі ўсё, гудкамі

Працінаюць наваколльле
І чакаць не хочуць болей.

Вось выходзяць чынна пары,
Ну працёр бы акуляры,

Каб іх меў. Такой пякноты
Я нідзе не бачыў потым,

Князь дачушак выпраўляе,
Пары жытам пасыпае,

Каб радзіла і вялося,
Каб спрыяла і маглося.

А далей усё па плану.
Ад вясельнага дурману

Ачмурэў я, як ад хмелю,
Так, што нават і вясельле

Вельмі цяжка ўспамінаю,
Хоць крыху і памятаю...

Што ж было... ну ўсё, як трэба,
Быў там хлеб, было да хлеба,

Быў гарэлкі акіян,
Я ж дык выпіў толькі збан,

Быў там гоман весялосьці
І з-за ўсіх з-за межаў госьці.

Дзень за днём гуло вясельле,
Ад гарэлкі госці млелі,

Князь варочаўся паволі,
Ды аднак не выйшаў з ролі,

Частаваў, галубіў люд,
Ну не князь, а нейкі цуд.

Дзесь праз тыдзень ад’язджалі
Маладыя ўсе. Казалі,

Князь наш плакаў, як басэтля,
Ды дачок праводзіў ветла,

Пажагнаў. І “будзь здарова”,
І ў прыдачу колькі словаў

Праказаў, як жыць ім далей,
Маладыя больш ківалі

Галавой, не разумеўшы,
Што казаў той. Што ж не пеша

Выпраўляў у сьвет дачушак,
Даў і коўдраў і падушак,

І ўсялякага начыньня,
Бо за кожнай перлі скрыню

Ўсякіх розных прычындалаў,
Як для нас, то і не мала.

Праўда быў і дрэнны факт.
Князь на шлюбны на кантракт

Проста ўзяў і напляваў,
І сярдзіта шчэ казаў.

Што “няма таго ў звычаю,
Княжым словам абяцаю

Як памру, пакіну вам
Я нікому не аддам

Ні палац і ні зямлю,
Па бацькоўску падзялю”.

Што ж, зяці пагаманілі,
Ды на тым і парашылі,

Што няма аб чым спрачацца,
Сталі дружна раз’язджацца.

**XI**

Звезьлі ўсіх дзяўчат за сьвет,
Мы дазналіся з газет,

Што не блага ім жывецца,
І капейчына вядзецца.

Хай там восень, хай зіма,
Што дзе ўзяць праблем няма.

Што адзець і штот абуць?
Заплаці, і ўсё нясуць.

А рабіць зусім не трэба,
Ёсць што есці і без хлеба.

Што ж, шыкуюць, адным словам,
Не баляць у іх галовы,

Як там бацька, як там князь,
А тут зноўку — слота, гразь.

Лье ад раньня, як з вядра,
Толькі з гэтага дабра

Бог карысці не дае,
Што не ссохла, то згніе.

Князь адзін ва ўсім палацы,
Занудзіўся ён без працы,

Надакучыла бадзяцца,
Хоць бы чым-нічым заняцца.

Раптам князя асьвятліла,
Кроў шляхетна зубруіла.

Князь Мікіту выклікае
І заданьне выкладае,

Што яны ў нядзелю зраньня
Выязджаюць у сватаньне

Ну, вядома, да Нясвіжа,
А не далей і не бліжай.

Хоць сватаньне не вясельле,
Вестка мігам абляцела,

Ды не толькі навакольле,
Захапіла крыху болей,

І пакуль князь мары плёў,
Даляцела да зяцёў.

Тыя грозна зашумелі
І на князя наляцелі,

Так і гэдак, так і сяк,
Патрабуюць свой пасаг.

І сярдуюць, і пужаюць,
І вайною пагражаюць,

Ды князь цвёрда ўпёрся тут,
На Літоўскі на Статут

Галавою ён ківае,
А Статут не дазваляе,

Каб якому чужаземцу.
Ці паляку там, ці немцу

Землю нашу прадаваць,
Трэба панству выбачаць.

Ды так проста не бывае.
Зяць за зяцем насядае.

З панталыку князь наш збіты,
Шле пасланцаў па Мікіту:

"Стан крытычны. Бачыш тое?
Што ж прыдумаць нам з табою,

Каб зяцёў утаймаваць
І зямлі ім не даваць".

"Кажаш, крызіс наспявае?
Ён з табой нас не спужае,

Зладзім з тое мы нагоды
Антыкрызісную згоду.

Мы аформім пагадненьне,
Толькі крышачку цярпеньня

Трэба князю тут займець,
Мы іх зможам адалець".

Тэкст пісалі дасканала,
Там нішто не бракавала.

Там прэамбула і ўмовы
І былі там прапановы,

Як той крызіс разгарыцца,
Каб усім тут памірыцца

І адзінымі шыхтамі
Выступаць. Скажу між намі,

Закруцілі хлопцы так,
Што ну нельга, ну ніяк

Супраць тут хоць што сказаць,
А ніхто не падпісаць.

А калі ўжо падпісалі,
Перад тым усе паўсталі.

Што, каб князь спакойна жыў,
Трэба тут, каб бараніў

Землі княжацкія ўрад.
Князь быў вельмі, вельмі рад.

Гэта ж трэба так здалець,
Свае беды каб сумець

Ды на ўрад пералажыць.
"Ой, Мікіта, доўга жыць

Будзеш ты, як не пасадзяць,
Ці замах які не зладзяць

На цябе зяці ліхія,
Бо ўжо надта гіцлі злыя"

Князь жа ў добрым сам гуморы,
Вочы зьзяюць, вусы ўгору.

Ад чаго? Што за пытаньне?
Зноўку выбраўся ў сватаньне,

Бо няма чаго чакаць...
Ды пра гэта расказаць

Давядзецца ў іншай казцы.
Памачаўшы вус ў бражцы.

Мушу вам ў тым прызнацца,
Што язык стаў заплятацца,

А таму прашу спадарства
Выбачаць за марнатраўства

Часу вашага й свайго,
І найлепшага ўсяго

Вам я шчыры пажадаю,
Ну, а кніжку закрываю

І прашу не сердаваць,
Што не здолеў дасказаць.



**Святаміхайлаўскі сабор у Лідзе. Сучасны выгляд.**